ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association

P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 349
Год выд. XXXVII

Ліпень
1988

## СТАЛІНСКІЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ Й ЛІТАРАТУРА

«Сталінскія хатыні» — гэткі трапны назоў пачынае прыкладацца да не палічаных яшчэ масавых магілаў бальшавіцкіх ахвяраў на Беларусі. Курапаты (гл. «Б-с» № 348) — гэта толькі пачатак жудаснага летапісу бальшавіцкае вакханаліі сьмерці.

Перад беларускай літаратурай на ўвесь свой шырачэзны рост стала цяпер ТЭМА НУМАР АДЗІН — ГЕНАЦЫД МІРНАГА ЧАСУ: зьверствы, спачвараньне чалавечае істоты, ідэялягічнае цемрашальства, якім прыкрывалася будаваньне і ўсхваляньне савецкага сацыялізму.

У беларускай савецкай літаратуры, у якой тэма вайны, тэма гітлерскіх злачынстваў займала натуральнае вядучае месца, тэма гэтая цяпер адыходзіць на задні плян, а на пярэдні, з гледзішча пісьменьніцкага маральнага абавязку, становіцца тэма сталіншчыны. Гэта яшчэ неабжыты жудасны кантынэнт, па якім толькі першыя сьцежкі праклалі сваімі вершамі ды публіцыстыкай Сяргей Грахоўскі, Васіль Быкаў, Пятрусь Макаль, Мікола Янчанка, Ніл Гілевіч, Сьвятлана Алексіевіч ды іншыя пісьменьнікі, у тым ліку й некаторыя нябожчыкі. Але шмат хто яшчэ й маўчыць, асабліва спасярод нядаўных афіцыйных тузоў.

Калі аднак у Крамлі ня дойдзе да рэакцыйнага перавароту, пра небясьпеку якога сёй-той пагаворвае (думаецца, што ня дойдзе), то тэма сталіншчыны будзе ўсё больш адціскаць назад тэму гітлераўскай акупацыі — і ня толькі таму, што тэма Другой сусьветнай вайны вычарпала сябе і ў літаратуры, і ў мастацтве, і ў кіно («'Беларусьфільм' — партызанфільм»!), але й таму, што тэма сталіншчыны мае цяпер куды важнейшае значаньне — з гледзішча маральнага й палітычнага.

З гледзішча маральнага таму, што сталінскі генацыд праводзіўся «сваёй»-жа, быццам-бы, уладай — народнай, савецкай, прычым рабілася ўсё гэта з тэхналёгіяй сьмерці, да якое гітлерцы й не дадумаліся — у Немцаў ня было часу на запавольненыя зьдзекі, на прыдумваньне тонкасцяў катаваньня, гітлерцы сьпяшаліся вайну перамогай завяршыць. У постаці-ж бальшавіцкага ката-сьледчага й катаканваіра выявілася грунтоўна выпрацаваная мэтодыка нішчэньня клясавых «ворагаў». Часу ў бальшавікоў было ўдосталь, бо яны паверылі Леніну, што Гісторыя на іхным баку... Далёка сярэднявечча зь ягонай інквізыцыяй да глыбіні маральнага ўпадку й сацыяльнага раскладу, якім пазначаныя часы сталіншчыны. І сёньня ўсе тыя сотні тысячаў, мільёны расстраляных, замарожаных, згноеных, зьнявечаных фізычна й духова людзей забавязваюць майстроў пяра й пэндзля выявіць, адлюстраваць, задакумэнтаваць, данесьці да сьведамасьці сучасьнікаў існасьць сталічшчынычы, вобразы катаў і катаваных, іхную псыхалёгію і ўвесь нутраны сьвет. Але абазавязак тут перад мастакамі ня толькі маральны.

Тэма сталіншчыны бадай яшчэ больш войстрая з гледзішча палітычнага. Бо-ж пэўнасьці й дасюль няма, што галоснасьць і перабудова — гэта працэс незварачальны. Прынамся гэтак разумеюць палажэньне і тыя ў Савецкім Саюзе, хто бярэ ўдзел у перабудове, і тыя, што сочаць гэты працэс звонку. Беларуская інтэлігенцыя ў БССР вельмі войстра адчувае разыку, на якую даводзіцца ісьці, выкрываючы злачынствы ўчарашніх катаў і сёняшніх «ціхіх пэньсіянераў». Але альтэрнатывы няма, ход можа быць толькі наперад. Павінны быць апісаныя й прааналізаваныя ў мастацкіх творах тыпы сталінцаў, павінен быць раскрыты мэханізм фізычнага й псыхалягічнага гвалту над чалавекам, грамадой, нацыяй. Мінуўшчына ўва ўсіх дэталях мусіць быць спазнаная, каб не паўтарылася. У ладнай меры гэта ўжо робіцца. У гэтым працэсе маральнага ачышэньня ідуць папераддзе больш адважныя таленты, больш сумленныя. І кожны іхны крок у выяўленьні каранёў ды вынікаў сталіншчыны будзе ўмацоўваць незварачальнасьць працэсу пера будовы.

**Янка Запруднік**

* * *

***Тым, што загінулі ў 30-х гадох.***

*Мы з табою, каханая, разьвіталіся раненька,*
*Подымалася сонейка з нашых росных лугоў.*
*Мы з табою, каханая, дажылі да сьвітанейка,*
*Толькі нехта, каханая, не дажыў да яго.*

*Там, дзе ночы бясконцыя, непрахладнасьцюдзёныя,*
*Адкахалі пакутнікі, не дажыўшы вясны.*
*Там каханыя, любыя паўставалі мадоннамі,*
*Незамужнімі жонамі паўставалі яны.*

*Ні ліста пахавальнага, ні зваротнага насылу,*
*Толькі рыску надзеячка пад жыцьцё падвяла,*
*Толькі дробны узгорак, сьлед магільнага насыпу,*
*І душа непакорная, што жыла, аджыла.*

---

**Ад Рэдакцыі:** Да нас дайшоў рукапісны тэкст гэтай сьпяванай цяпер на Беларусі песьні, аўтарства якое мы тымчасам з усёй пэўнасьцяй ня можам сьцьвердзіць. Магчыма, яе напісаў Сяргей Сокалаў-Воюш.



***Ніхто не памёр сваёй натуральнай сьмерцяй.*** *Пісьменьнікі групы «Полымя» (здымак з 1928 г.). Верхні рад (зьлева): Алесь Ляжневіч, Міхайла Грамыка, Уладыслаў Галубок, Міхась Зарэцкі, Анатоль Вольны, Алесь Дудар, Алесь Гурло; ніжні рад (зьлева): Якуб Колас, Цішка Гартны, Янка Купала, Міхась Чарот, Васіль Сташэўскі.* (З архіву БІНіМ).

## АБ ПРЫЧЫНЕ СЬМЕРЦІ ЯКУБА КОЛАСА

Трынаццатага жніўня сёлета споўніцца 32 гады ад сьмерці Якуба Коласа. Як выяўляецца цяпер, сьмерць паэта, як і сьмерць дзесяткаў іншых беларускіх пісьменьнікаў, была вынікам тэрору — у дачыненьні да Коласа ня фізычнага, а маральнага — з боку партыйных органаў.

На Беларусі цяпер ходзяць па руках копіі ліста, напісанага Коласам у дзень свае сьмерці ў адказ на русыфікацыйную палітыку, якую хрушчоўскае кіраўніцтва ўзялося праводзіць у БССР па сьмерці Сталіна.

Партыйныя органы пачалі былі дамагацца ад народнага пісьменьніка Беларусі, каб ён падтрымаў лінію партыі ў нацыянальнай палітыцы, скіраваную на тварэньне «новай гістарычнай супольнасьці — савецкага народу». Для Коласа выступаць за тварэньне гэтай «новай супольнасьці» было раўназначным адрачэньню ад сваіх пагляду на нацыянальную справу, гэта значыла падпісваца пад прысудам культурнае сьмерці свайму народу, і ад гэткага кроку ён катэгарычна адмовіўся. Рэакцыя у ЦК была гнеўная, партыя ўзялася за «перавыхоўваньне» народнага пісьменьніка. Што гэтая кампанія магла за сабой пацягнуць, Якуб Колас вельмі добра ведаў яшчэ з даваеннай практыкі. «Расказваючы нам сёе-тое з трыццатых гадоў, — сьветчыць Янка Брыль («ЛіМ», 1.I.88), — дзядзька Якуб сказаў, што тры гады ён спаў не распранаючыся — чакаў...».

У 1956 годзе сэрца 73-гадовага Коласа, змучанага сталіншчынай і вайной, ня вытрывала новых пакутаў і зьдзеку — ліст-пратэст у ЦК (на імя сакратара ЦК Цімафея Гарбунова) быў апошнім актам спакутаванага песьняра. Копія гэтага дакумэнту даўгі час перахоўвалася ў сям'і Коласа. Цяпер размножаная, яна ходзіць па руках, аб мяркоўваецца на сходах нефармалаў і сталася своеасаблівым каталізатарам сёньняшняга змаганьня ў абароне роднае мовы.

Паводля Янкі Брыля, увесну 1987 году на пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі гаварылася, што «пісьмо, зь якім Якуб Колас хадзіў у ЦК партыі ў дзень сваёй сьмерці, павінна быць, нарэшце апублікавана. Пісьмо — пра становішча з роднай мовай...» («ЛіМ», 1.I.88).

Але дасюль яшчэ перадсьмяротнае слова Сымона Музыкі савецкая цэнзура трымае ў сакрэце.

---

## *АН БССР СПРАЧАЕЦЦА ЗЬ «БЕЛАРУСАМ»*

Пад грыфам Акадэміі Навук БССР і Інстытуту Літаратуры імя Я. Купалы выйшла летась кніжка Міхася Мушынскага пад заг. «Літаратура і ідэялягічная барацьба. Некаторыя аспэкты фальсыфікацыі беларускай літаратуры на Захадзе» (72 бб., тыраж 1025 экз., «разьлічаная на лектараў, прапагандыстаў»).

Найбольш Мушынскі аспрэчвае выказваньні на старонках газэты «Беларус» (за 1981-1986 гг.). «Довады», якімі ён карыстаецца ў спрэчцы, паказваюць, што крытык далёкі ад «новага мысьленьня» гарбачоўскае пары. У беларускай літаратуры, паводля Мушынскага, усё было цудоўна. Купала й Колас поўнасьцяй стаялі на пазыцыях Кастрычніка, беларуская літаратура квітнела пад сонцам сацыялістычнага рэалізму, а ўсё, што пішуць заходнія ды «беларускія буржуазныя нацыяналісты» — гэта вынік росту ў сучасным сьвеце «ідэялягічнай барацьбы паміж сьветам сацыялізмА і сьветам капіталізмУ». Абгрунтаванасьць аргумэнтацыі ў Мушынскага падобная на ягоную-ж пасьлядоўнасьць у скланяньні назоўнікаў з канчаткам «-ізм». Але пра гэта — у наступным нумары «Беларуса».

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Беларускія арганізацыі ньюёркскай мэтраполіі ўжо традыцыйна ад 1959 году штагоду бяруць актыўны ўдзел ува ўсіх імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, якія ладзіць у Нью-Ёрку Камітэт Паняволеных Народаў.

Сёлетні, ужо 30-ты з чаргі, Тыдзень Паняволеных Народаў, — які, згодна з пастановаю Кангрэсу ЗША, адзначаецца ў трэйці тыдзень ліпеня — трываў ад 17-га да 24-га ліпеня і ў імпрэзах ягоных узяло ўдзел больш за 40 арганізацыяў.

Адзначэньне Тыдня пачалося ў нядзелю 17 ліпеня ўрачыстай багаслужбай у каталіцкай катэдры Сьв. Патрыка. Пасьля багаслужбы арганізацыі паняволеных народаў з нацыянальнымі сьцягамі й транспарэнтамі прайшлі працэсіяй па Пятай авэню да пляцу Дага Гамаршэльда, што каля галоўнай кватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Там адбыўся мітынг з прынагоднымі прамовамі й мастацкай часткай, у якой узялі ўдзел ансамблі Армянаў, Кітайцаў, Харватаў, Мадзяраў і Румынаў.

Галоўным прамоўцам на мітынгу сёлета быў маёр рэзэрвы амэрыканскай арміі Вальтэр МэкШэры, старшыня клюбаў Рэспубліканскай партыі гор. Нью-Ёрку.

У часе Тыдня розныя арганізацыі паняволеных народаў ладзілі палітычныя мітынгі ў галоўных кватэрах сваіх арганізацыяў.

Заканчэньне Тыдня Паняволеных Народаў адбылося ў Бруклінскай нямецкай лютэранскай царкве. Урачыстую багаслужбу адправіў і прынагодную казань сказаў пастар гэтае царквы Горст Гутшэ. У залі царквы адбылася пасьля бяседа, якую адчыніў і вёў ведамы нямецкі дзеяч у Нью-Ёрку сп. Горст Уліх. У часе бяседы выступалі з прамовамі прадстаўнікі паняволеных народаў. Ад Беларусаў у заканчэньні Тыдня брала ўдзел дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

**Ш.**

**«Таталітарная дзяржава ня здушыла імкненьня да нацыянальнае незалежнасьці, і хваля гісторыі выявілася перад усім чалавецтвам як хваля ўздыму свабоды й нацыянальнага вызваленьня.**
**«Віцэ-прэзыдэнт Буш і я сам урачыста дэкляруем усім людзям паняволеных народаў па цэлым сьвеце: Амэрыка ніколі не забудзецца пра вашае цяжкое палажэньне і мы ніколі не пакінем гаварыць праўду. Вашае змаганьне ёсьць нашым змаганьнем, вашыя лятуценьні ёсьць нашымі лятуценьнямі, і прыйдзе дзень, калі вы будзеце вольныя».** — Прэзыдэнт ЗША Рональд Рэйган на сустрэчы ў Белым Доме з прадстаўнікамі этнічных групаў Амэрыкі 13 ліпеня 1988 г., напярэдадні Тыдня Паняволеных Народаў.

# М. КУКАБАКА ПРА «ПЕРАБУДОВУ»

У самвыдавецкім часапісе «РЕФЕРЕНДУМ. Журнал независимых мнений» (Масква, сьнежань 1987) зьмешчанае выказваньне беларускага вязьня сумленьня Міхала Кукабакі пра гарбачоўскую перабудову.

«Мне тымчасам яшчэ нічога ня ясна. Каб працэс стаўся незварачальным, патрэбныя ня заклікі (яны толькі 'увэртура'), а структурныя зьмены дзяржаўнага апарату, палітычнай сыстэмы. А іх пакуль што няма. А тое, што ёсьць ці нават намячаецца — нагэтулькі нязначнае, што не дае ніякіх падставаў для далёкасяжных высноваў...

«Сяго-таго з тых, хто распараджаецца маёй доляй у малым і вялікім, цікавіць мая думка пра 'перабудову'. Ім мала майго простага адказу, ім патрэбная 'інфармацыя' збоку (ім здаецца, што гэта больш надзейна). Мяне не перастае дзівіць гэтая слабасьць мысьленьня, паталёгія. Пяцьдзесят гадоў я жыву — і ўсе ў гэтай краіне, зь іх 15 у зьняволеньні — гэта ўсяроўна як кузурка пад мікраскопам. Тэрміну больш як удоваль, каб усьведаміць, што мне не ўласьцівая двудушнасьць, мне праціўныя арганічна ўсякія 'гульні'.

«Дык вось, адказваю гэтым людзям. Я ацэньваю 'перабудову', разглядаю яе перш-наперш праз прызму свайго ўласнага палажэньня і палажэньня да мяне падобных. Яшчэ дакладней — стаўленьня закону да сябе й да сабе падобных. Тымчасам я ўва ўпор ня бачу ніякае перабудовы, а дзеля гэтага дамагаюся выезду з гэтае краіны куды хаця, хоць на Саламонавы абтокі ці на абток Пасхі. Дамагаюся выезду ўжо адзінаццаты год і буду дамагацца да канца свайго жыцьця. У гэтым ні ў кога не павінна ўзьнікаць сумлеваў...

«На сёньняшні дзень няма ніякіх гарантыяў ад звароту да ўсяго таго, што асуджаецца. Апрача таго, 'дэмантаж' некаторых нэгатыўных зьяваў яшчэ не пачаўся. Незваротны характар працэс дэмакратызацыі набудзе толькі тады, калі лёсы міліёнаў людзей тут і лёсы многіх іншых народаў ня будуць залежаць ад 'благога' ці 'добрага' Гарбачова, Іванова ці Пятрова. А да гэтага яшчэ вельмі нялёгкі шлях...».

## ПРА АБУДЖЭНЬНЕ Ў БССР

Часапіс ABN Correspondence (N. 2, 1988), што выходзіць у Мюнхэне, зьмясьціў артыкул Багдана Нагайлы пра рост беларускае нацыянальнае сьведамасьці, што пацьвярджаецца гэткімі фактамі, як рух «нефармалаў», абарона роднае мовы, калектыўныя лісты да Гарбачова, мітынгі пратэсту ды дамаганьні рэгабілітацыі ахвяраў сталінізму. Аўтар артыкулу сьцьвярджае, што ў БССР, дзе дагэтуль праявы нацыяналізму былі рэдкаватыя, нацыянальныя пачуцьці цяпер на ўздыме.

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ НА ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ВІЛЬНІ

Паводля прэсавага камунікату Літоўскага Інфармацыйнага Цэнтру ў Нью-Ёрку (11.VII) у масавай дэманстрацыі (100 тыс. асобаў), што адбылася ў Вільні 9-га ліпеня, выступіў з прамоваю і прадстаўнік ад беларускае Ініцыятыўнае групы, у часе прамовы якога быў разгорнуты беларускі нацыянальны сьцяг. Дэманстранты дамагаліся свабоды для Літвы ды іншых саюзных рэспублікаў, выказалі салідарнасьць з Армянамі Нагорнага Карабаху. Беларускі сьцяг добра відзён на відэафільме з дэманстрацыі, які быў вывезены зь Вільні. Рэдакцыя «Беларуса» будзе гэты фільм мець.

## КПБ ЗА АЎТАНОМІЮ

Паводля амэрыканскае газэты «Балтымор Сан» (1.VII), прадстаўнікі Беларускай ССР на 19-й партыйнай канфэрэнцыі ў Маскве, як і дэлегаты трох балцкіх рэспублікаў, а таксама Комі АССР, выступалі за большую эканамічную аўтаномію для сваіх рэспублікаў.

## *ЗАСТРАШВАНЬНЕ «МЮНХЭНСКІМІ 'ЗАПІСАМІ'»*

У ліпеньскім нумары часапісу «Полымя» А. Каўко, адбіваючы выпад супраць яго А. Жураўскага, дырэктара Інстытуту мовазнаўства АН БССР, піша:

«Не магу зразумець, на якой падставе А. І. Жураўскаму ўздумалася выводзіць ужытыя мною словы 'згадка', 'згаданы', 'згадваць', 'прыгадаць' і да т.п. менавіта зь мюнхэнскіх 'Запісаў'. Мог-жа ён згаданыя, альбо, каму як хочацца, прыпомненыя, выразы сустрэць у выказваньнях нашых пісьменьнікаў». І тут-жа Каўко падае цэлы шэраг прыкладаў з творчасьці Крапівы, Багдановіча, Куляшова ды іншых пісьменьнікаў, якія карысталіся словамі «згадка», «згаданы», «згадваць».

У канцы свайго допісу, у якім, дарэчы, выказваецца прапанова, каб вярнуць беларускай мове назовы Менск, Наваградак, Гародня, Траецкае (прадмесьце ў Менску), Каўко піша: «Спыніць абнаўленчы рух ні прывідным запалохваньнем 'Захадам', ні іншымі надуманымі мэтадамі нельга».

## РАСЕЙСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ

**Мэльбурн, Аўстралія.** — Тут адбылася, пад апякунствам Аўстралійскай фэдэрацыі ўкраінскіх арганізацыяў, двухдзённая канфэрэнцыя на тэму «Расейскі імпэрыялізм і Савецкі Саюз». У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел 20 навукоўцаў, было прачытана 13 дакладаў, адбылася адкрытая дыскусія на тэму «Дылемы Гарбачова».

Др. Зэнон Когут, супрацоўнік вашынгтонскай Кангрэсавай бібліятэкі, прачытаў даклад пра панаваньне Расейцаў над Украінай і Беларусяй. Украінцы й Беларусы, сказаў дакладчык, у існасьці яшчэ ўсё пазбаўленыя магчымасьці быць самымі сабою. На думку др. Когута, цяперашняя палітыка галоснасьці й перабудовы прынесла Украінцам і Беларусам шанцы й спадзяваньні на палепшаньне, большае самавыяўленьне.

Пра Беларусаў гаварылі таксама ў сваіх дакладах праф. Багдан Бацюркіў з Карльтанскага ўнівэрсытэту ў Атаве (Канада) («Рэлігійная палітыка ў СССР») і выкладчык украінаведы на Макварыўскім унівэрсытэце (Аўстралія) Сяргей Ціпко («Культурныя выпікі савецкага панаваньня ў нерасейскіх рэспубліках СССР»).

## ПАЭТАМ, АХВЯРАМ СТАЛІНШЧЫНЫ

**Сябром-Беларусам ад Уладзімера Сасюры**
(З паэмы «Расстралянае бясьсьмерце»)

О, скільки в серці сонця й злота!
Вперед, поезія моя!
Про геніального Чарота
на струнах серця граю я.
Хоч у крові забитих грузько...
Він був Сосюра білоруський...
І куля (з нею впав він в герці),
немов стирчить в моему серці...
«О Беларусь, моя шыпшына,
зяльони лист, червоны цвет!..»
Співав колись мій друг, поет,
великий, рідний друг, Дубовка...
Але його скрутили ловко
ті, що ведуть свій рід од вовка...
В лице натхненне — пістолет...
А скільки вас, мої сябри,
рубали, як оті бори,
що простягали в небо крони,
і крапотіла кров червона...
І я на березі Дніпра
Згадав Олеся Дударя,
його дівочі спухлі губи...
На молодого схожий дуба
шумів на сонці він, співав...
і от, — підрубаний упав...
Кат і на нім поставив «точку»...
І кров'ю крапали листочки...

(«Укр. віснік», вып. 9/10, 1987. Паэма была напісаная ў канцы 1950-х ці на пачатку 1960-х гадоў).

## *МІЖНАРОДНЫ ДРУК ПРА «КУРАПАТЫ»*

Пра масавыя расстрэлы сталінцамі беларускага жыхарства ў Курапатах (гл. «Б-са» № 348) паведамілі: італьянскія газэты «Уніта», «Дж'ёрнале» і «Тэмпо» (усе за 1.VII), заходня-нямецкі часапіс «Шпігель» (4.VII), брытанская газэта «Таблет» (9.VII), англамоўнае выданьне радыястанцыі «Вольная Эўропа/ Свабода» «Савецкі і Усходняэўрапейскі Рапарт» (10.VII), газэта «Вашынгтон Таймс» (15.VII); ньюёркская газэта «Новое Русское Слово» (24.VI) зьмясьціла вялікі пераказ матар'ялу «ЛіМ», тое самае зрабілі парыская «Русская Мысль» (8.VII) і варшаўская «Палітыка» (23.VII).

## *ВЫВУЧЭНЬНЕ ВЫНІКАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ*

Францускі часапіс Sciences et avenir (Навука й будучыня) за травень гэтага году паведаміў, што ў Менску быў нарэшце створаны Інстытут радыябіялёгіі для вывучэньня вынікаў Чарнобыльскай атамнай аварыі, ад якое найбольш пацярпела Беларусь. Дырэктар новай установы, праф. Аўген Канопля, запярэчыў пагалоскам, што быццамбы ў выніку высокай радыяцыі ў межах 30-кілямэтровай зоны навакол Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ўжо зьявіліся мутацыі сярод некаторай фаўны. «Я магу сьцьвердзіць, — сказаў Канопля, — што ў гэтай зоне і ў навакольных раёнах ня было заўважана ніякіх адхіленьняў. Але, — дадаў ён, — гэта ня значыць, што такое ня можа стацца ў будучыні».

Праф. Канопля мае вывучаць вынікі ўплываў нявысокай радыяцыі на жывыя арганізмы, а мэта ўзначальванага ім інстытуту — «выкрыць сваечасна магчымую небясьпеку ды знайсьці спосабы яе адхіліць».

У беларускім савецкім друку былі дамаганьні большае інфармацыі аб узроўні радыяцыі ў розных частках Беларусі.

*ЦІ ПАДПІСАЛІСЯ ВЫ НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»?*

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ
## БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ГУМАНІТАРНАГА ТАВАРЫСТВА

***Прынятая 20 мая 1988 г. на ўстаноўным сходзе БНГТ у Мінску абсалютнай бальшасьцю галасоў. Заснавальнікамі БНГТ сталі 20 чалавек.***

Канец XX стагодзьдзя — эпоха буйнага росквіту вытворчых сілаў, шпаркага разьвіцьця навукі і тэхнікі. Але чалавецтва сталася адчужаным ад гэтых матэрыяльных чыньнікаў поступу, ім-жа пакліканых да жыцьця. Навукова-тэхнічны прагрэс зрабіўся самамэтаю, а чалавек з мэты вытворчасьці ператварыўся ў ейны прыдатак. Другаснасьць становішча чалавека ў гэткіх варунках прывяла да заняпаду гуманітарнае традыцыі, да абясцэньваньня ўсяе культуры.

Яшчэ больш пагоршыла такое становішча практыка рэштквага фінансаваньня разьвіцьця культуры, што склалася ў нашай краіне ў апошнія дзесяцігодзьдзі. Эканомія на культуры — гэта злачынства. Эканомячы на культуры, мы «выхоўваем» хамства, бяздухоўнасьць, цынізм...

Культура — вось адзін сродак зрабіць чалавека культурным. І паколькі дасюль невядомыя іншыя формы існаваньня культуры апроч нацыянальнай, то ўздым культуры Чалавецтва бачыцца мажлівым адно праз разьвіцьцё культураў нацыянальных. Толькі свабоднае і паўнакроўнае разьвіцьцё кожнага народу вядзе да паўнавартага і гарманічнага поступу агульначалавечай супольнасьці, да сапраўднага паразуменьня і братэрства спаміж народамі. Росквіт нацыянальных культураў і ўзвышэньне гуманітарнай парадыгмы могуць пазбавіць Чалавецтва хваробаў шавінізму і нацыяналізму як спараджэньняў нізкага культурнага разьвіцьця, абмежаванасьці і нерэалізаваньня нацыянальных патэнцыяў.

Мы, прадстаўнікі маладога пакаленьня беларускае навуковае інтэлігенцыі, занепакоеныя рэальным станам беларускай культуры, сур'ёзнымі сацыяльна-эканамічнымі праблемамі грамадзтва і небясьпечнымі працэсамі ў сфэры экалогіі.

Парушэньне нормаў ленінскай нацыянальнай палітыкі ў 1930-50 гадах, а затым практыка недаацэнкі самога факту існаваньня ў вялікай дзяржаве самабытных нацыянальна-культурных арганізмаў, якая склалася ў 1960-х — пачатку 1980-х гадоў, надзвычай востра паставілі пытаньне аб існаваньні Беларусаў як самастойнай сацыялістычнай нацыі.

У апошнія дзесяцігодзьдзі катастрафічна звузілася сфэра рэальнага функцыянаваньня беларускай мовы. Яна сталася выціснутай з сыстэмы дашкольнага выхаваньня і народнай асьветы. Беларускамоўныя ВНУ, тэхнікумы і вучэльні ў БССР цалкам адсутнічаюць. Падрыхтоўка настаўнікаў для беларускіх школаў не вядзецца фактычна з пасьляваеннага часу. Мэханізм перадачы нацыянальнай традыцыі і культуры, што складваўся праз стагодзьдзі, даўно парушаны. Адбылася фармалізацыя масавае нацыянальнае сьвядомасьці. Пагрозьліва пачасьціліся праявы маральнае дэградацыі і дзікунства. Большая частка Беларусаў цяпер ня мае нават уяўленьня аб каштоўнасьці ўласнага нацыянальнага, а наша мастацкая культура амаль цалкам страціла жывую сувязь з народам і існуе хіба дзеля самое сябе.

У гэтакі складаны для беларускага народу час у цяжкім становішчы апынуліся і гуманітарныя навукі. Дагматызм, карпаратыўнасьць, хранічнае адставаньне, канфармізм, адсутнасьць цэлых навуковых напрамкаў, а таксама панаваньне вульгарна-сацыялягічных схемаў і засільле бюракратыі на ўзроўні кіраўніцтва прывялі за заняпаду іх аўтарытэту ў рэспубліцы, і тым больш на агульнасаюзным узроўні.

Адзінае выйсьце з гэтага небясьпечнага становішча мы бачым у фактычнай рэалізацыі ленінскіх прынцыпаў сацыяльнай справядлівасьці, нацыянальнага раўнапраўя, дэмакратызму і поўнае галоснасьці, а таму цалкам падтрымоўваем курс партыйнага кіраўніцтва на радыкальную перабудову ў СССР.

Дзеля гэтага мы лічым неабходным аб'яднацца ў грамадзкую арганізацыю — Беларускае Навукова-Гуманітарнае Таварыства, каб праз сумленную працу супольна браць самы актыўны ўдзел у рэвалюцыйных пераўтварэньнях грамадзтва.

Сябры Таварыства ставяць сабе за мэту:

1. Змагацца за ўздым грамадзянскай і нацыянальнай сьвядомасьці ў народзе, выступаць супраць бюракратызму, дагматызму і коснасьці ў культуры і навуцы.

2. Садзейнічаць карэннай гуманізацыі навукі і культуры, пасьлядоўна сьцьвярджаць у іх сфэры нормы сацыялістычнага плюралізму і спрыяць дэмакратызацыі ўсяго ладу грамадзкага жыцьця.

3. Уздымаць беларускую навуку на якасна новы ўзровень разьвіцьця і займацца яе шырокай папулярызацыяй.

4. Імкнуцца даводзіць здабыткі сусьветнай навукі і культуры да жыхарства рэспублікі.

5. Далучаць іншаэтнічныя групы насельніцтва Беларусі да беларускай культуры і падтрымліваць разьвіцьцё іх уласных культураў.

6. Здабываць і распаўсюджваць аб'ектыўную інфармацыю аб важных падзеях грамадзка-культурнага жыцьця.

7. Сродкамі культуры змагацца з небясьпекай ядзернай і экалягічнай катастрофы сьвету.

## «ПАХВАЛА БЕЛАРУСКІМ СЬВЯТЫМ»

У праграме адзначэньня 1000-годзьдзя хрышчэньня Русі ўсесаюзная фірма кружэлак «Мэлёдыя» (падпарадкаваная Міністэрству культуры СССР) выдала сёлета дзьве даўгаграйныя кружэлкі з запісам багаслужбаў новага сьвята (3-я нядзеля па Сёмусе) «Собор Белорусских святых». У багаслужбе ўзялі ўдзел Мітрапаліт Мінскі й Беларускі Філарэт, пратадыякан Іоан Серпакрылаў ды хор менскага Сьвятадухаўскага катэдральнага сабору пад кіраўніцтвам Л. Ракіцкага.

На кружэлках зьмешчаныя фрагмэнты ўсяночнай і літургіі, у тым ліку кампазыцыі А. Валынчыка, Н. Бутомы, А. Туранкова ды іншых, а таксама трапар, кандак і сьціхіра Сабору Беларускіх сьвятых, трапары Еўфрасіньні Полацкай, Кірылу Тураўскаму, Софіі Слуцкай, Менскай іконе Божай Маці, Жыровіцкай іконе Божай Маці.

Запіс багаслужбаў сьвята Ўсіх Беларускіх сьвятых быў зроблены 27-28 чэрвеня 1987 году.

Рэдакцыя «Беларуса» спадзяецца мець касэткі з запісам абедзьвюх кружэлак.

# *18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ*

Сустрэча адбудзецца ў сыботу-нядзелю-панядзелак 3-5 верасьня ў Тароньце. Рэгістрацыя гасьцей і адчыненьне Сустрэчы — у сыботу ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры, 524 St. Clarens Avenue. Баль Сустрэчы — тагож дня ў гасьцініцы Skyline Triumph Hotel Keele St. (North of 401), Toronto, Ont. M3M 2E9. Tel.: 1-800-268-1332. У тэй-жа гасьцініцы ў нядзелю, па багаслужбе ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, адбудзецца банкет.

Даклады ў сыботу й нядзелю будуць прысьвечаныя: 400-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага; 150-годзьдзю ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага; 1000-годзьдзю хрысьціянства ў Беларусі, абароне беларускае мовы й абароне М. Кукабакі.

У панядзелак адбудзеца паломніцтва ў сьвятое месца Мучанікаў у Мідлендзе, дзе будзе высьвечаны Беларускі крыж.

На Сустрэчы, апрача Беларусаў з Канады й ЗША, будуць суродзічы зь Беласточчыны, Аўстраліі, Ангельшчыны, Гішпаніі ды іншых краёў.

У беларускай радыяпраграме ў Беластоку будзе сэрыя перадачаў пра Сустрэчу (рэпартажы, інтэрвію), якую зробіць у Тароньце карэспандэнт беластоцкае радыястанцыі сп. Уладыслаў Праховіч.

Замаўляючы пакой у гасьцініцы Скайлайн-Траюмф, каб дастаць зьніжку, трэба зазначаць, што рэзэрвацыя была зробленая Згуртаваньем Беларусаў Канады (Byelorussian-Canadian Alliance) для Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Зь Нью-Брансьвіку ў Таронта будзе аўтобус. Месцы трэба замаўляць загадзя. Нумар тэлефону: 201-545-6654.

# *«НЕФАРМАЛЬНЫЯ» БЕЛАРУСЫ*

*Няхай ману разносіць хлус,*
*Няхай стукач шукае змову.*
*Я — нефармальны Беларус,*
*А ўсе навокал — хто вы?*

***Сяржук Сокалаў-Воюш***

Часапіс «Нёман» у шостым сёлетнім нумары даў магчымасьць прадстаўніком нефармальных суполак беларускай моладзі выказацца пра клюбы й пастаўленыя перад сабой мэты. Пасьля таго як 26-27 сьнежня 1987 г. адбыўся ўсебеларускі зьезд («вальны сойм») «нефармалаў», у якім узяло ўдзел больш за 30 групаў, у тым ліку госьці з Масквы, Ленінграду, Яраслаўля, Кіева, Вільні й Коўні, рэспубліканскі друк пачаў больш пісаць пра гэты рух моладзі. Але выказваньні пайшлі самыя розныя. Вось-жа рэдакцыя «Нёмана» пастанавіла даць слова самым удзельнікам нефармальных суполак. У «круглым стале» «Нёмана» ўзялі ўдзел восем асобаў (у веку ад 22 да 30 гадоў): *Сяржук Вітушка*, кіраўнік гісторыка-культурнага аб'еднаньня «Талака», студэнт гістарычнага факультэту; сябра «Талакі» *Вінцук Вячорка*, выкладчык пэдінстытуту; прадстаўнік Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» *Сяргей Кавалёў*, асьпірант-філёляг; і *Адам Глобус*, карэспандэнт маладзежнага часапісу «Крыніца»; старшыня экааб'еднаньня «Сьвітанак» пры тэхналягічным інстытуце, студэнт гэтага інстытуту *Алесь Гуркоў;* ад аб'еднаньня маладых мастакоў «Штука» *Алесь Костка*, студэнт тэатральна-мастацкага інстытуту; прадстаўнік рок-клюбу «Няміга» *Віктар Мартыненка*, карэспандэнт газэты «Чырвоная зьмена»; кіраўнік школьнага клюбу «Касінеры» *Віктар Івашкевіч*, грузчык чыгуначнага прадпрыёмства.

Вось некаторыя выказваньні ўдзельнікаў круглага стала.

*А. Грукоў* (адказваючы на пытаньне пра розныя чуткі, што ходзяць аб «нефармалах»): «Вы маеце рацыю, чутак шмат. І, пэўна-ж, яны ўзьнікаюць не самыя сабой. Адзін прафэсар у нас у інстытуце гэтак і сказаў: 'На Захадзе выходзіць шмат эмігранцкіх газэт, якія фінансуюцца ЦРУ, і якраз яны ствараюць гэты рух'. Цікава, дзе мы маглі прачытаць гэтыя газэты?..

«Я думаю, што чуткі — ад нястачы інфармацыі пра нас, пра наш рух. Рух гэта патрыятычны. Нашыя заданьні — адраджэньне роднае мовы, вывучэньне беларускае гісторыі, захаваньне фальклёру й помнікаў культуры, прыроды Беларусі».

*С. Вітушка.* «Ведаеце, што я падумаў пра нацыяналістаў, якія 'нас зарганізавалі'? Уся рэч у тым, каго нашыя недабразычліўцы лічаць нацыяналістам. Запраўды, на ўзьнікненьне 'Талакі' паўплывалі кнігі Ўладзімера Караткевіча, Адама Мальдзіса, кніга Зянона Пазьняка 'Рэха даўняга часу'... Таксама як і малюнкі А. Марачкіна, і графіка М. Купавы, і шмат што іншае. Ці можна казаць, што яны — нацыяналісты і што яны нас арганізавалі? Не і не. Рэч у тым, што практычна мы ўсё пачыналі самі, самастойна. І, на жаль, ад дасьветчанага старэйшага пакаленьня дапамогі было мала. Залішне шмат мы сабе непатрэбных грузоў набілі. Хоць, з другога боку, гэта й добра. Гэта прывучыла да поўнай адказнасьці за свае ўчынкі.

*В. Вячорка.* «Рух пачаўся задоўга да перабудовы і дзеля гэтага сустракаў бясконцыя напады. Рух наш — зьява заканамерная. Дзеля таго што з ростам грамадзянскае сьведамасьці людзі звярачаюцца да галоўных вартасьцяў — мовы, гісторыі, разумеюць, што яны — зьвяно ў ланцужку пакаленьняў, перахоўнікі традыцыяў, якія ў сваю чаргу перададуць нашчадкам. Рухі ў абарону культурнае спадчыны й роднае мовы сёньня пашыраюцца па цэлым сьвеце». (...) (160)

«Нефармальны патрыятычны рух моладзі пачаўся ўзімку 1980-1981 гг. Канкрэтна — з Калядаў. Адкуль гэтакая дакладная дата? Перад Калядамі студэнты — чалавек пяць з унівэрсытэту, — будучыя філёлягі, чалавек дзесяць з тэатральна-мастацкага інстытуту і яшчэ прадстаўнікі самых розных спэцыяльнасьцяў і навучальных установаў — сабраліся й пастанавілі адрадзіць Каляды на вуліцах Мінску. Некаторых аб'яднаўвалі таварыскія сувязі, некаторыя тут-жа й пазнаёміліся. Каляды прайшлі цікава, але й не бяз 'прыгодаў'. Хтосьці выклікаў міліцыю, і нас хацелі забраць у аддзяленьне. Але паколькі нічога супрацьзаконнага мы не рабілі, нас адпусьцілі. Паводля таго як ахвотна прыймалі нас гаспадары бальшыні кватэраў, мы пераканаліся, што справа гэта патрэбная. І гэтак, стыхійна, узьнікла першае аб'еднаньне — 'Беларуская майстроўня'. (...) (160)

«'Майстроўня' пасьля развалілася, а нефармальны культурны рух працягваўся. Ладзіліся фальклёрныя сьвяты,

*(Працяг на 8-й б.)*

# ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ ЯК ЭТНОГРАФ

**(Да 50-х угодкаў гібелі з рук сталінскіх катаў)**

***Ад Рэдакцыі:** У беларускім савецкім друку паступова пачынаюць ня толькі згадваць імя Вацлава Ластоўскага, але й даваць ацэнкі ягонай навуковай спадчыне. Яшчэ далёка да поўнага асьвятленьня жыцьця гэтага волата нацыянальнага адраджэньня, але прынамся настаў час, калі ў БССР можна канкрэтна гаварыць пра некаторыя бакі дзейнасьці Ластоўскага. Гэтак, прыкладам, літаратуравед Уладзімер Казьбярук у артыкуле пад заг. «З клопатам пра спадчыну» («ЛіМ», 24.VI.88) сказаў гэткае пра «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага (Коўня, 1926): «Яшчэ й сёньня наша навука ня выкарыстала ўсяго багацьця фактычнага матар'ялу, сабранага ў гэтай кнізе».*

*Вацлаў Ластоўскі быў выдатным публіцыстам, першым гісторыкам беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, пісьменьнікам, лексікографам, этнографам, выдаўцом, грамадзкім і палітычным дзеячом.*

*Ніжэй зьмяшчаем скарочаны тэкст дакладу пра В. Ластоўскага як этнографа, прачытанага сп. Антонам Шукелайцем на канфэрэнцыі ў Лёндане, прысьвечанай Ластоўскаму з нагоды 100-годзьдзя ад ягонага нараджэньня (гл. «Б-с» № 313).*

Беларускі народ, дзякуючы спэцыфічнаму геаграфічнаму палажэньню — непраходнасьці лясоў і балотаў, якія вякамі тварылі натуральныя граніцы — захаваў багатую даўніну вясковага быту, багатую народную культуру: матар'яльную, духовую й грамадзкую. Дык ня дзіва, што пачынаючы ад XIX ст. быт Беларусаў прыцягваў зацікаўленьне этнографаў, спэцыялістаў і аматараў, чужынцаў і сваіх.

Досыць згадаць такія імёны зь гісторыі беларускай этнаграфіі як Чачот, Раманаў, Шэйн, Нікіфароўскі, Фэдароўскі, Дабравольскі, Багдановіч (бацька Максіма Багдановіча), Пяткевіч, Сербаў, Ластоўскі, Шлюбскі, Касьпяровіч, Пяцюкевіч, каб мець уяву аб зацікаўленасьці нашай народнай культурай.

Выдатны польскі вучоны Казімір Машыньскі на беларускім усходнім Палесьсі перад Першай сусьветнай вайной ставіў першыя свае крокі як этнограф, а пасьля, стаўшыся прызнаным вучоным і прафэсарам Кракаўскага ўнівэрсытэту, у часе зьбіраньня матар'ялаў да свае працы «Народная культура Славянаў», перабраўся ў 1935 г. ў Вільню, каб быць у беспасярэднім кантакце зь беларускай вёскай.

Вацлаў Ластоўскі, як тыповы беларускі дзеяч нашаніўскага пэрыяду з шырокімі зацікаўленьнямі ў розных галінах беларусаведы, браўся за ўсё, каб у меру магчымасьцяў спрычыніцца да беларускага адраджэньня. І поруч із сваёй працай палітычнай ды літаратурнай, поруч із зьбіраньнем матар'ялаў да гісторыі Беларусі, гісторыі беларускага пісьменства, беларускай мовы, патрапіў сабраць багаты этнаграфічны матар'ял з розных галінаў народнай культуры, што дае яму права на імя этнографа ды належнае месца ў гісторыі беларускай этнаграфіі.

У працы Ластоўскага-этнографа можна выдзяліць два асноўныя пэрыяды. Першы, які пачынаецца першым друкаваным артыкулам з этнаграфічнай тэматыкай «Каляда-Грамавіца» ў калядным нумары (51-52-м) «Нашай Нівы» за 1909 год, і канчаецца пярэбарамі зь Літвы ў Беларускую ССР у 1927 годзе. Другі, нясумерна карацейшы, усяго трохгадовы пэрыяд арганізацыйнай і навуковай працы ў БССР, які закончыўся ў 1930 годзе арыштам і ссылкай, што палажыла канец навуковай дзейнасьці раўнуючы маладога, 47-гадовага вучонага.

Хоць у першым пэрыядзе этнаграфія й ня была галоўнай галіной зацікаўленьня В. Ластоўскага, дык усё-ж ягоная творчасьць з этнаграфічнай тэматыкай налічае каля 30-х бібліяграфічных пазыцыяў: вялікіх артыкулаў і невялікіх даведак, раськіданых па розных часапісах і ў бальшыні пад псэўданімамі й крыптанімамі, якія былі расшыфраваныя ў артыкуле «Ластоўскі як этнограф» у часапісе «Новы Шлях» № 9(45) за 1944 год з дапамогай А. М[атача], супрацоўніка В. Ластоўскага з часапісу «Крывіч».

Маркуючы паводля пералічаных у артыкуле публікацыяў, Ластоўскі цікавіўся рознымі аспэктамі народнай культуры. З гэтых публікацыяў на асаблівую ўвагу заслугоўваюць тыя, у якіх Ластоўскі не ўдаваўся ў тэарэтычныя разважаньні, а дакладна апісваў тое, пра што даведаўся ад сваіх бацькоў і дзядоў, што перажыў сам, што даведаўся ад пажылых людзей, пераважна ў сваёй Дзесьненшчыне.

Пасьля пярэбараў у БССР этнаграфія й музэйная справа стаюцца галоўнай галіной дзейнасьці Ластоўскага. Ён прымае прызначэньне Савету Народных Камісараў БССР на становішча загадчыка катэдры этнаграфіі Інстытуту Беларускай Культуры (Інбелкульт), а пасьля рэформы Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук у 1929 годзе становішча акадэміка і неадменнага сакратара прэзыдыюму БАН, выконваючы адначасна надалей функцыю загадчыка катэдры этнаграфіі ды рэдактара органу катэдры «Працы катэдры этнаграфіі».

У ліку сталых супрацоўнікаў катэдры Ластоўскі спаткаў сваіх ранейшых сяброў, ведамых беларускіх этнографаў: Сербава, Шлюбскага, Касьпяровіча.

У выніку далейшай рэформы ў структуры БАН катэдра этнаграфіі рэарганізавалася ў катэдру матар'яльнай культуры й этнаграфіі із сталымі камісіямі: вывучэньня матар'яльнай культуры, народнай культуры, народнага мастацтва, народных песьняў і фальклёру.

Катэдра этнаграфіі пад кіраўніцтвам Ластоўскага штагоду праводзіла навуковыя экспэдыцыі ў розных кірунках па БССР, асабліва на паўночна-ўсходніх і паўдзённа-ўсходніх ускраінах рэспублікі, дзе паўставалі праблемы этнічна-моўнага характару.

Ластоўскі асабіста кіраваў дзьвюма экспэдыцыямі: першай улетку 1925 году маршрутам Слуцак-Асташкавічы з удзелам працаўніка Беларускага Дзяржаўнага Музэю А. Панова й мастака-фатографа Гальмачана, якая сабрала шмат экспанатаў. Гальмачан сфатаграфаваў шмат цікавых старавечных аб'ектаў: цэркваў у беларускім стылі драўлянага будаўніцтва, іконаў народных маляроў, могілкаў, вясковых будынкаў, прадметаў штадзённага карыстаньня, народнай вопраткі, народнага мастацтва ды антрапалягічных тыпаў мясцовага жыхарства — разам каля 300 здымкаў.

З фатаграфіяў тае экспэдыцыі былі зробленыя чатыры вялікія й прыгожа афармленыя альбомы. Адзін зь іх быў перахаваны супрацоўнікам Ластоўска-

(Працяг на 6-й б.)

# РАСПЛАТА ЗА АДМОВУ СЛУЖЫЦЬ У ВОЙСКУ

***Ад Рэдакцыі:** У сакавіковым нумары «Беларуса» была пададзеная вестка пра засуджэньне ў БССР двух братоў-Беларусаў, Васіля й Мікалая Шустоў, за адмову, на грунце рэлігійных перакананьняў, адбываць рэгулярную вайсковую службу. Якi ціск савецкія ўлады ствараюць на людзей у выпадку адмовы ад службы ў войску, якімі бесчалавечнымі мэтадамі карыстаюцца, расказваецца ў ніжэй зьмешчанай карэспандэнцыі, якую мы нядаўна дасталі ад сп. Пятра Грыгальчыка.*

* * *

У 1974 годзе, калі мне было 18 гадоў і жыў я ў Маладэчне, мяне паклікалі ў ваенкамат — ведама дзеля якое справы. Аднак я, як веруючы-пяцідзясятнік, згадзіўся ісьці ў войска толькі як веруючы. Я сказаў, што я за сапраўднае разззброеньне, і таму зброі ў рукі браць не хачу. Я згаджаўся працаваць у будаўнічым батальёне, хай нават чатыры гады заміж двух.

Паслухаў мяне ваенком Маладэчанскага ваенкамату Кузьняцоў і кажа: «Ты ачарніў савецкія ўзброеныя сілы». Я ведаў, што мая адмова можа скончыцца мне лягерам ці псыхічным шпіталём. Так яно й сталася. З ваенкамату мяне накіравалі ў Менск у шпіталь на абсьледаваньне маіх нэрваў і псыхікі. І ў мяне знайшлі «хваробу», зьвязаную з псыхічным разладам ды ўпісалі ў мой ваенны білет артыкул 11б, які абазначаў маю хваробу мэдыцынскай мовай. Тым ня менш мне з усіх бакоў казалі, што мне пашанцавала. Але радасьць мне з гэтага была невялікая, бо зь мяне зрабілі дурня. А я-ж сярэднюю школу скончыў, дый далей хацеў спэцыяльнасьць добрую набыць. Ды дзе там было?!

Шмат я абыйшоў прадпрыёмстваў у г. Маладэчне і ўсюды ў аддзелах кадраў чуў: «Вы — камсамолец?.. А, не, Вы — сэктант!..» А тады паглядзеўшы ў ваенны білет:«Ды Вы яшчэ й псыхічна хворы... Не, нам такія не патрэбныя».

Спрабаваў я дамагацца сабе пэнсіі на інваліднасьць. Таксама нічога ня выйшла. Прыкладам, на адным прыйме ў намесьніка стыршыні гарвыканкому Брацішкі мне было сказана: «Вы-ж можаце працаваць дворнікам, вартаўніком ці чым-небудзь у гэтым родзе». Цяжка мне давялося, бо я ня меў ніякіх ільготаў. І ўсё-ж, на шчасьце, удалося мне ўладкавацца вучнем муляра ў домакіраўніцтве № 2. Прынамся там была гарантаваная аплата працы (ня вышэй як 80 рублёў на месяц).

Кантора гэная была невялікая, займалася рамонтам старых будынкаў. У канторы налічвалася дзесьці 10-15 кіраўнікоў і чалавек 30 рабочых. Быў яшчэ там парторг — пэрсанальны пэньсіянер, калішні камісар партызанскай брыгады на Маладэчаншчыне, аформлены як дворнік, хоць у гэтай якасьці ён не працаваў, а толькі грошы атрымваў. Яно, вядома, ня лішнія тыя 80 рублёў да пэнсіі ў 120 рублёў. Заданьнем парторга-камісара было выхоўваць нас на сапраўдных патрыётаў, абаронцаў краіны Саветаў. Нялёгкая гэта была справа. Тут слаўнаму камісару ні лаянка не дапамагала ні нават тое, што мяне часамі хапаў за грудкі й пагражаў кулакамі.

Падобным шляхам, а можа й цяжэйшым, прайшоў таксама мой сябар і аднаверац з Маладэчна А. Гудзель. Ён быў на пачатку 80-х гадоў на будаўніцтве БАМу (Байкала-Амурскай Магістралі) у складзе будаўнічых войскаў. Яго таксама выхоўвалі там увесь час на патрыёта. Працаваў ён па 10 і 12 гадзін, і цяжка. Зарабляў па тры рублі на месяц ды яшчэ сінякі й шрамы на твары. Так як абуткам у яго былі звычайныя боты, а мароз стаяў 60 градусаў, дык абмарозіў ногі. Ляжаў у шпіталі. Ну, і нарэшце вярнуўся дахаты.

Неўзабаве мяне ізноў паклікалі ў ваенкамат, у сакавіку 1982 году. Зноў кажуць ісьці ў войска. Тады ўжо можна было трапіць і ў Афганістан, дзе ўжо «братняя дапамога» ішла поўным ходам. Паслухалі-паслухалі мяне ў ваенкамаце — ізноў тая самая гаворка, зноў бачаць трохі вар'ят: аб Богу гаворыць, аб тым, што ворагаў сярод людзей няма, бо толькі адзін вораг — д'ябал... Дый накіравалі мяне на лячэньне ў Менск у ваенны шпіталь ОВГ-432, у псыхічна-нэўральгічны аддзел. Там са мной больш гутарылі, чымся давалі ўколы. Ужо хацелі везьці да спэцпсыхлякарні ў пасёлак Навінкі каля Менску. Але чамусьці лекары пастанавілі, што мяне трэба адпусьціць дахаты. Аднак на камісіі мне яшчэ адзін артыкул упісалі ў ваенныя дакумэнты, гэта 5а, што значыла, што ў міжчасе я пасьпеў стацца «умственно недоразвитым с провалом памяти».

Прабаваў я пратэставаць, што мяне гэтак адурняюць, аднак лекар сказаў: «Усяроўна мы зробім зь цябе хворага». Прабыў я там больш як два тыдні і быў выпісаны.

Нейкі час пасьля таго я жыў яшчэ ў Маладэчне, пэньсіі ніякае не атрымоўваў, а працаваў дзе й раней. Бацькі мае былі людзьмі і хворымі і беднымі. Маці — інвалід 2-й групы, 30 рублёў месячнай пэньсіі, татка — пэньсіянер па старасьці — 70 рублёў. Сталінскія лягеры крэпка падарвалі ягонае здароўе.

Нарэшце яшчэ раз паклікалі мяне ў ваенкамат, гэта ўжо ў 1987 годзе, але гэта было ўжо ў Літве. Тады патрабаваліся салдаты ў Чарнобыль. Як цяпер памятаю, прыйшоў я да ваенкамату ў гор. Шырвінтасе, а там ваенны камісар зварачаецца да ўсіх пакліканых і кажа: «Таварышы, вы дабраахвотна запрашаецеся на дапамогу Радзіме...». «Але-ж якое там дабраахвотна», пачаў я пярэчыць. «Я, прыкладам, не хачу». Ну, вядома, ізноў чакала мяне псыхіятрычная экспэртыза ў Вільні. Некалькі дзён я правёў у клініцы. Але лекары сказалі, што, «нажаль, ня маем месца, у нас хворыя і на калідорах ляжаць». Дый часы гарбачоўскія пачаліся ўжо. Мне й маёй сям'і «верныя сыны» свае «Радзімы» параілі эміграваць, што я й зрабіў.

Падобнае нешта давялося перажыць і маім сябром. Прыкладам, Эдуард Булах быў засуджаны ў Вільні ў 1981 годзе за тое, што адмовіўся ўзяць зброю ў рукі, хоць згаджаўся працаваць у будаўнічым атрадзе.

Другі мой сябар і аднаверац з Маладэчна быў пасаджаны ў 1984 годзе ў псыхіятрычны шпіталь у пасёлку Навінкі пад Менскам, таксама з тае самае прычыны — не хацеў ісьці служыць у войску захопнікаў.

Я, як і мае сябры, ня хочам быць дэзэртырамі роднага кута. Але якое дачыненьне мы маем да Анголы, да Афганістану й г.д., дзе народ не жадае нас бачыць і ня хоча нашай «дапамогі»?! Трэба змагацца за свае правы, за дабрабыт свайго краю.

**Пятро Грыгальчык**

*З ЖЫЦЬЦЯ Ў АТАВЕ (КАНАДА)*

## МІЖНАЦЫЯНАЛЬНАЯ ВЫСТАЎКА МАСТАЦТВА




Ад сьнежня 1987 г. да 25 студзеня сёлета ў Канадыйскім музэі цывілізацыі працавала міжнацыянальная выстаўка народнага мастацтва пад назовам «Аўтапартрэт». Арганізавала яе Атаўская рада народнага мастацтва з нагоды свайго 20-годзьдзя ў супрацоўніцтве з Канадыйскім музэем цывілізацыі. У выстаўцы ўзялі ўдзел 24 нацыянальныя групы, кожная зь якіх дала па тры экспанаты, што найлепш характэрызавалі народнае мастацтва дадзенай групы. Музэй дапоўніў выстаўку сваймі экспанатамі.

Беларускае народнае мастацтва было прадстаўленае тканінай (ручнік), аплікацыяй з саломкі ды вырабам з гліны (збанок). Для інфармацыі пра выстаўку была выдадзеная вялікая прыгожая афіша з рэпрадукцыяй беларускага сюжэту. Адчыніў выстаўку дырэктар музэю ў прысутнасьці каля трохсот запрошаных гасьцей.

Ініцыятарам і каардынатарам гэтай падзеі была сп-ня Івонка Сурвіла.

### У ГЕНЭРАЛЬНАГА ГУБЭРНАТАРА КАНАДЫ

Сп-ня Жан Совэ́, генэральны губэрнатар Канады (прадстаўніца брытанскай каралевы, якая ёсьць таксама каралевай Канады) ладзіла 21 красавіка прыняцьце для прадстаўнікоў этнічных групаў. Беларусаў на прыняцьці прадстаўлялі сп-ства Сурвілы, зь якімі сп-ня Совэ́ мела даўжэйшую гутарку на тэмы, зьвязаныя зь Беларусамі й Беларусяй.

**Язэп Вішневіч**

## ЗЬЕЗД ЗБВВ

**Лёндан, Англельшчына.** — 42-гі агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбыўся тут 25 чэрвеня 1988 г. ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыніў зьезд прывітальным словам старшыня ЗБВБ Янка Міхалюк. Ён вітаў прадстаўнікоў М. Баяроўскага, П. Грыгальчыка з аддзелу ЗБВБ у Бірмінгаме і сп-тва Міхалюкоў з аддзелу ЗБВБ у Манчэстэры.

У мандатную камісію былі абраныя сп. сп. М. Баяроўскі, П. Грыгальчык і Хв. Дзімітраў, у прэзыдыюм — М. Швэдзюк (старшыня) ды А. Ражанец і А. Зданковіч (сакратары).

Із справаздачных дакладаў было відаць, што шырока праводзілася дзейнасьць ЗБВБ ня толькі у яе нутраным жыцьці, але навонкі, аб чым стветчыць сама карэспандэнцыя з розных навуковых інстытуцыяў, паасобных асабістасьцяў, што зьвярталіся па інфармацыйныя матар'ялы — літаратуру аб Беларусі, беларускай мове і да т.п. Добры лад дзейнасьці арганізацыі забясьпечыць далейшае існаваньне Беларускай Бібліятэкі й Музэю Ф. Скарыны ды далейшай важнай дзейнасьці Англа-Беларускага Таварыства.

Зьезд быў паінфармаваны пра захады Амнэсты Інтэрнашэнал аб вызваленьні беларускага вязьня сумленьня М. КУКАБАКІ.

Зьезд прызнаў абсалютарыем уступаючай управе. У новую галоўную ўправу былі выбраныя: Я. Міхалюк — старшыня, А. Зданковіч — заступнік старшыні, Я. Сяўковіч — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік, Я. Ясьвіловіч і А. Ражанец — сябры. У наглядную раду й сяброўскі суд увайшлі П. Грыгальчык, С. Буткевіч і М. Швэдзюк.

Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць адыйшоўшых у вечнасьць сяброў ЗБВБ сьв. пам. А. Пятраша і М. Саўкі-Міхальскага.

Адбылася супольная вячэра, у часе якой а. Надсон падзяліўся сваймі ўражаньнямі з пабыту ў ЗША. Вячэра была ўдала падрыхтавана сп-няй Алёнай Міхалюк, за што ёй тут выказваецца ўдзячнасьць ад усіх удзельнікаў зьезду.

**А. Зданковіч**

*З ЖЫЦЬЦЯ Ў СЫДНЭІ (АЎСТРАЛІЯ)*

### УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Сьвяткаваньне адбылося 27 сакавіка. У Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве быў адслужаны малебен. Акадэмію правялі ў залі Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу. Адчыніў урачыстасьць старшыня клюбу сп. М. Лужынскі, цікавы даклад прачытаў сп. А. Смаль. Былі зачытаныя прывітальныя лісты й тэлеграмы з усіх куткоў сьвету. Сп-ня Ніна Зуй і сп. Гавенчык прадэклямавалі патрыятычныя вершы. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

Адбыўся супольны абед, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка сп-ням Олі Тумашэўскай, Крысі Ўлазевіч, Марце Юхневіч і Маргарэце Гавенчык.

### 1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

Сыднэйская грамада адзначыла гэты юбілей 15 чэрвеня багаслужбай у Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве і ўрачыстым сходам у залі Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Файрфілдзе. Былі прачытаныя два даклады: сп. М. Зуй пра хрышчэньне Кіеўскай Русі, сп. М. Лужынскі пра асьветніцкую дзейнасьць сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Айцец архімандрыт Віньямін выказаў цікавыя думкі на абедзьве тэмы.

Прыемная сустрэча трывала далей за супольнымі абедзеннымі сталамі.

За самаахвярную працу ў рыхтаваньні абеду падзяка належыцца сп-ням М. Супрунчык, О. Тумашэўскай і М. Юхневіч.

### УГОДКІ БКА Й ІІ-ГА КАНГРЭСУ

Беларусы Сыднэю й ваколіцаў адзначылі 26 травеня 44-я ўгодкі Беларускай Краёвай Абароны й Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. У Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве а. Віньямін адслужыў малебен за Беларускі народ і паніхіду па тых, што аддалі жыцьцё за Радзіму й Веру. З царквы, за выняткам адзінак, усе паехалі ў Беларускі Клюб, дзе адбылася акадэмія. Даклад на тэму дня прачытаў сп. М. Зуй. Дакладчык, гаворачы пра бязьмежна цяжкія абставіны, у якіх беларускія патрыёты пад нямецкай акупацыяй арганізавалі адміністрацыю й ваенную абарону жыхарства, падаў шмат прыкладаў злачынных перашкодаў як з боку чырвоных партызанаў, гэтак і нямецкіх акупантаў. Сп. Гавенчык прадэклямаваў два патрыятычныя вершы. Афіцыйная частка закончылася супольным адсьпяваньнем «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Адбыўся багаты абед. Рыхтавалі яго сп-ні Н. Лужынская (старш. жан. к-ту), М. Супрунчык, О. Тумашэўская, Н. Зуй, О. Бакуновіч, М. Юхневіч і іншыя, за што ўсім ім кажам: «Заплаці Вам Божа!».

**М.**

### РАДЫЯПРАГРАМЕ 12 ГАДОЎ

Беларускай радыяпраграме ў Сыднэі споўнілася 20 ліпеня сёлета 12 гадоў. Кіраўніка праграмы сп. Міхася Лужынскага і ўсіх яго́ных супрацоўнікаў вітаем з гэтымі ўгодкамі ды адзначаем вялікі ўклад энэргіі, таленту й самае звычайнае працы ў гэты важны культурна-грамадзкі праект, дзякуючы якому беларуская грамада ў Сыднэі й ваколіцах больш адчувае сваё нацыянальнае адзінства й трымае лучнасьць зь беларускім сьветам паза сваім раёнам і паза Аўстраліяй. У лучнасьці наша сіла! Трымайма сувязь і падтрымывайма тых, хто на гэтай ніве працуе.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### *АНСАМБЛЬ «ДУБІНЬ́І» Ў КАНАДЗЕ*

Вакальна-інструмэнтальны ансамбль «Дубіны́» зь Беласточчыны прыбыў у Канаду, дзе возьме ўдзел у Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Назоў ансамблю пахозіць ад вёскі Дубіны́, дзе група была заснаваная, хоць цяпер ня ўсе ейныя сьпевакі паходзяць з Дубіноў.

Шчыра вітаем дарагіх гасьцей ды зычым прыемна правесьці час, а таксама наведаць суродзічаў у Злучаных Штатах.

***КАБ НЯ БЫЛО ЗАПОЗНА!*** *ДА СУРОДЗІЧАЎ У НЬЮ-ЁРКУ Й НЬЮ-ДЖЭРЗЫ: ЗАПІСВАЙЦЕСЯ БЕЗАДКЛАДНА НА АЎТОБУС ДЛЯ ПАДАРОЖЖА Ў ТАРОНТА НА СУСТРЭЧУ. БУДЗЕ ВЫГОДНА, ПРЫЕМНА Й ВЕСЕЛА.* — УПРАВА БАЗА.

## *«БУРАЧОК»*

### Самвыдавецкі «зборнік-альманах-часапіс» з БССР

***Ад рэдакцыі:*** *Дайшла да нас копія выдадзенае ў Беларусі самвыдавецкае машынапіснае публікацыі «Бурачок» (40 старонак). Чаму «Бурачок»? А таму, што адраджэнец Франьцішак Багушэвіч карыстаўся псэўданімам «Бурачок» (Мацей Бурачок). Назоў выданьня гаворыць пра ягоны ідэйны кірунак, а таксама пра ацэнку выдаўцамі сучаснага стану на Беларусі. На копіі, што дайшла да нас, няма ні году ні месяца выданьня. Ёсьць меркаваньне, што выйшаў зборнік летась у Горадні, але пэўнасьці няма.*

*Ніжэй зьмяшчаем уводны артыкул з «Бурачка». Мову й правапіс пакідаем бязь зьменаў, бо яны таксама аб нечым гавораць. З рэштай зьместу гэтага выданьня азнаёмім у далейшых нумарох «Беларуса».*

---

Браце беларусе.

Бяз шуму, бяз лішняга галасу, не пры чужым воку, — пагаворым спакойна, як той казаў, аб усім, што баліць, чаму баліць ды што рабіць, каб не балела.

«Ня трэба дзьвюх, каб пачаць», — сказаў Прарок. І пачаў. Нам — працягваць. І тут па адным ужо не хапае.

Па адным былі Ларыса Геніюш, Уладзімер Караткевіч... Гэта на іхні сьветач зьбіраемся мы. Гэта ад іхніх паходняў запальваем свае. І вось ужо іншыя абуджаюцца наўкола. Але як часта нам бракуе сілаў ці кему, каб згуртаваць іх ды скіраваць на добрае.

Шмат што раскідае нас, разлучае. Тыдзень, месяц і год — аніхто не прыходзіць. А тое і завагаешся — ці ж слушнага просіць сэрца?

Так і блукаем, палеі на адным полі, ня бачачы адна аднае. А бракуе, можа, усяго аднаго — згоды.

Страчваем мову, самабытнасьць, ня ўмеючы прытарнаваць іх да зьменаў часу. Страчваем плён свой і папярэднікаў, ня ўмеючы даць яму поступу. Страчваем веру ў сябе і ў будучыню нацыі...

Сумна. А тут яшчэ госьці прыходзяць або да сябе клічуць. Як ратавац-

*(Працяг на 7-й б.)*

## ВОДГУКІ НА КНІЖКУ С. ЯНОВІЧА

Кніжка беларускага пісьменьніка Сакрата Яновіча «Беларусь, Беларусь», выдадзеная папольску варшаўскім выдавецтвам «Іскры» ў 1987 г., выклікала ў польскім друку жвавую рэакцыю, дадатную і адмоўную.

Часапіс «Повсьцёнглівосьць і Праца» (№ 1, студз. 88) зьмясьціў прыхільную рэцэнзію Анджэя Дравіча, які піша, што Яновіч у сваёй кнізе «прамаўляе красамоўна, сакавіта, калярытна, сянькевічаўскім стылем» ды што «гарачы паток» прозы пісьменьніка, «штосьці наўзор літаратурнай сподвезі, якая мясьцінамі пераходзіць у прамову абаронную, мясьцінамі — у абвінаваўчую», змушае чытача задумацца над крыўдамі, спрычыненымі Беларусам за часамі незалежнасьці. Дравіч уважае, што настаў час, калі трэба выбачацца і шукаць выбачэньня ды кажа, што ініцыятыва тут павінна йсьці з польскага боку.

У першым сёлетнім нумары часапісу «Веньзь», публікацыі каталіцкае інтэлігенцыі ў Варшаве, быў зьмешчаны нарыс пра Яновічаву літаратурную творчасьць, пераклад трох ягоных апавяданьняў і крытычны разгляд кніжкі «Беларусь, Беларусь» Багданом Скарадзінскім і Марэкам Карпам. Падаючы пра матар'ял у «Веньзі», газэта «Кур'ер Подляскі» (30.III) падала (пад заг. «Змарнаваны шанц»), што, паводля Скарадзінскага й Карпа, Яновіч залішне эмацыянальны ў сваім выкладзе беларускіх жаляў, дапушчае недакладнасьць у фактах ды зашмат крытыкуе Палякоў. Непаінфармаваны польскі чытач, паводля Скарадзінскага й Карпа, ня ўспрыйме Яновічавых эмацыянальных аргумэнтаў.

«Кур'ер Подляскі» піша аднак, што паводля гісторыка праф. Уладыслава Сэрчыка (які пісаў пра Яновіча ў «Газэце Вспулчэснэй» і «Одродзэню») «Беларусь, Беларусь» — «кніжка цікавая, бо прадстаўляе беларускі пагляд на польска-беларускія дачыненьні».

Кракаўская каталіцкая газэта «Тыгоднік Повшэхны» (20.II), пад заг. «Крык з пагранічча», падала таксама пра крытыку Яновіча ў «Веньзі». Газэта цытуе Скарадзінскага, які, між іншага, сказаў, што кнізе Яновіча характэрны «моцны, бескампрамісны беларускі патрыятызм» і што гэтая «патрыятычная, наіўная жарсьць, якая ні на што не зварачае ўвагі, дае яму (Яновічу) маральнае права гаварыць рэчы нават няслушныя».

### «БЕЛАРУСКІ ЗНАК ЖЫЦЬЦЯ»

Пад гэткім загалоўкам чыкагаўская польская газэта «Дзеньнік Зьвёнзковы» (20-22.V) падала пра выдадзены ў Беластоку зборнік дакумэнтальнага матар'ялу «Архіўны сшытак» (гл. «Б-с» № 347). Выхад гэтай публікацыі газэта называе «падзеяй», бо, піша «Дзеньнік», «нязвычайна рэдка даходзяць да нас сыгналы аб запраўдным стане беларускіх справаў». Газэта паінфармавала пра тэматычны дыяпазон «сшытка», адзначыўшы прыгэтым ягоны «пануры» тон. «Успрыйманьне гэтага сыгналу, — піша газэта, — вымагае з боку Палякоў больш за ўсё моцных нэрваў і халоднай галавы».

Прызнаўшы, што Палякі як народ «не бязь віны ў дачыненьні да Беларусаў, «Дзеньнік Зьвёнзковы» піша, што беларускі народ цяпер у «трагічнай сытуацыі» ды што трэба «намаганьняў, каб яго зразумець і яму дапамагчы».

## В. ЛАСТОЎСКІ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

га, мастаком-рэстаўратарам Беларускага Дзяржаўнага Музэю Габрыелем Віерам. У часе Другой сусьветнай вайны альбом той, зыдэнтыфікаваны подпісамі пад здымкамі (на аснове захаваных экспанатаў, старых інвэнтарных кнігаў БДМ ды іншых дакумэнтаў), быў вывезены зь Беларусі і перахоўваецца цяпер у Бібліятэцы й Музэі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

Другая экспэдыцыя, якою кіраваў Ластоўскі, была праведзеная ў 1929 годзе з удзелам Сербава й Касьпяровіча. Экспэдыцыя абсьледавала дэльту Дняпра-Прыпяці — раёны Юравіцкі, Хойніцкі, Брагінскі, Лоеўскі, Рэчыцкі. Нейкі час пашыралася думка, што там жыве мяшанае жыхарства: расейскае, беларускае ды ўкраінскае. Вывучыўшы матар'яльную й духовую культуру, асабліва фальклёр, удзельнікі экспэдыцыі пераканаліся, што там жывуць Беларусы.

Катэдра этнаграфіі Інбелкульту й БАН выдалі пад рэдакцыяй В. Ластоўскага два зборнікі ў сэрыі «Працы катэдры этнаграфіі»: першы зборнік выйшаў у 1928 годзе, другі — у 1930 і быў адразу сканфіскаваны. У абодвых зборніках друкаваліся працы Ластоўскага, аднак тэмаў гэных артыкулаў не ўдалося знайсьці.

Пры Інбелкульце, а пасьля рэформы — пры БАН існавала Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое цесна супрацоўнічала з катэдрай этнаграфіі ды на старонках свайго органу «Наш Край» друкавала праграмы, інструкцыі й анкеты Ластоўскага ды іншых сяброў катэдры этнаграфіі дзеля супрацоўніцтва з правінцыйнымі музэямі й этнографамі-аматарамі.

В. Ластоўскі быў таксама дырэктарам Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску. Музэй гэты існаваў ад 1923 году, але гэта быў толькі склад музэйнага інвэнтару, зьвезенага з розных малых музэяў, якія былі ў Менску да Першай сусьветнай вайны. Ластоўскі, атрымаўшы прасторныя залі былога архірэйскага дому, а з часам і царквы (пасьля перабудаванай у дом Чырвонай арміі) ды запрасіўшы да супрацоўніцтва выдатных гісторыкаў, мастакоў і гісторыкаў мастацтва, Шчакаціхіна, Віера, Тычыну, Панова, патрапіў разбудаваць музэй на інстытуцыю годную свайго назову. У БДМ, дзякуючы стараньням Ластоўскага, былі перавезены з Полацку Крыж Еўфрасіньні Полацкай, абразы старых беларускіх мастацкіх школаў, лепшыя абразы з мастацкіх выставак у Менску, Віцебску, Гомелі ды вартасныя абразы і іншыя экспанаты з раённых музэяў. Асабліва хутка разрасьліся тыя аддзелы музэю, якія папаўняліся дзякуючы навуковым экспэдыцыям, як этнаграфічны, археалягічны, царкоўнага мастацтва ды гісторыі старога Менску. Пры БДМ быў зарганізаваны таксама гэбрэйскі аддзел, а так-жа аддзел нумізматыкі й сфрагістыкі.

Пасьля арышту Ластоўскага БДМ быў неўзабаве зачынены, а вартасныя экспанаты апынуліся ў правізарычна зробленым складзе з дошчак на панадворку былой кансысторыі. І толькі ў часе Другой сусьветнай вайны былы супрацоўнік Ластоўскага мастак Віер адшукаў частку абразоў Магілеўскай і Віцебскай школаў, закансэрваваў іх і выратаваў ад зьнішчэньня. Пасьля арышту Ластоўскага зачыненая была таксама й катэдра этнаграфічных навукаў Беларускай Акадэміі Навук.

У асобе Ластоўскага Беларускі народ страціў выдатнага арганізатара навуковых установаў і этнографа.

**Антон Шукелайць**

## АДБУДОЎВАЕЦЦА ЦАРКВА

У вёсцы Чыжы на Беласточчыне згарэла ў 1984 годзе драўляная царква. Зь вялікімі цяжкасьцямі прыхаджане



ўзяліся будаваць новую. Справа ня лёгкая. Суродзічам у Чыжах дапамагаюць аднаверцы-Беларусы із штату Нью-Джэрзы, а можа й іншыя Беларусы з Амэрыкі ды Канады. Царкоўны будынак паступова ўздымаецца ўгару.

Айцец Уладзімер Цыбулінскі й сябры будаўнічага камітэту прыслалі суродзічам у Нью-Джэрзы шчырую падзякую за атрыманую грашовую дапамогу, яны цэняць гэтую дапамогу як з матар'яльнага боку, гэтак і з боку маральнага.

## *БЕЛАРУСІКА Ў БРЫТАНСКІМ ЧАСАПІСЕ*

Часапіс «Солянус», орган Брытанскай Арганізацыі Дзяржаўных і Унівэрсытэцкіх Бібліятэкаў, да супрацоўнікаў якога належыць і дырэктар Беларускае Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане а. Аляксандар Надсон, зьмясьціў у сваім другім сёлетнім выпуску рэцэнзію а. Надсона на нядаўна выдадзеную ў Менску публікацыю «Кніга Беларусі — Зводны Каталог, 1517-1917». Рэцэнзэнт падкрэсьляе, што хоць Беларусы першымі сярод усходніх славянаў пачалі друкарства, дагэтуль яны ня маюць поўнага каталёгу сваіх друкаў. У рэцэнзіі паказваецца, наколькі савецкая цэнзура сурова ставіцца да беларускага друку: У каталёг «Кніга Беларусі» ня ўлучаныя ня толькі важныя беларускія кнігі, як прыкладам «Кароткая Гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага (1910 г.), але нават працэнзураваны зьмест паасобных зборнікаў ды ня ўлучаныя гэткія аўтары як Язэп і Антон Лёсікі, Антон Луцкевіч і іншыя. Рэцэнзэнт піша, што дасьледнікі, якія спадзяваліся мець патрэбную й важную працу ў галіне беларускае бібліяграфіі, будуць моцна расчараваныя даведнікам «Кніга Беларусі», бо палітычныя меркаваньні пры ўкладаньні гэтае працы — відавочныя, і гэта дае аснову прыпушчаць, што шмат і іншага матар'ялу ня ўлучана ў гэты «зводны» каталёг.

У тым-жа нумары «Солянуса» зьмешчаная рэцэнзія сп-ні Зоры Кіпель зь Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі на беларускі разьдзел кнігі «Книговедение: энциклопедический словарь», што выйшла ў Маскве. Рэцэнзэнтка кажа, што беларускі матар'ял у гэтай працы пададзены неахайна, зь вялікімі пропускамі, недакладнасьцямі ды блытанінай. Прыкладам, у разьдзеле пра беларускі кнігадрук не названыя важныя беларускія друкарні (Сьвятадухаўскага брацтва ў Вільні, Кутэінская друкарня каля Воршы, друкарня Мамонічаў), амаль адным сказам акрэсьлены ўвесь выдавецкі пэрыяд газэты «Наша Ніва», перабльтаныя творы Я. Коласа й Я. Купалы ды шмат іншае дэзынфармацыі. Падобныя недакладнасьці й пропускі адзначыла Зора Кіпель і ў украінскім матар'яле гэтага савецкага даведніка.

## У БІНіМе ПРА БЕЛАСТОЧЧЫНУ

У суботу 16 ліпеня ў Нью-Ёрку ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага праф. Том Бэрд і сп. Мікола Заморскі падзяліліся ўражаньнямі зь нядаўнага пабыту на Беласточчыне і ў Варшаве з нагоды адзначэньня 30-гадовага юбілею літаратурнага згуртаваньня «Белавежа». Адзначэньне юбілею ўлучала навуковую сэсію ў Беластоку, на якой праф. Бэрд меў даклад, ды колькі эстрадных і масава-народных імпрэзаў у Гайнаўцы ды іншых мясьцінах Беласточчыны.

Дакладчыкі аднагодна казалі, што сьвяткаваньне юбілею «Белавежы» адзначалася спраўнай арганізацыяй, багатай праграмай, вялікім удзелам грамадзтва ды ладнай колькасьцяй гасьцей як з розных унівэрсытэтаў і гарадоў Польшчы, гэтак і з БССР.

Далейшую інфармацыю аб наведаньні Беласточчыны прачытаеце ў наступных нумарох «Беларуса».

### «ЦАРКОЎНЫ СЬВЕТАЧ» № 41, 1988

Нумар двумоўны, беларуска-ангельскі.

У нумары пабеларуску: «Рукапалажэньне ў сан сьвяшчэньніка дыякана Мечыслава Брынкевіча» (6.VII.86); пропаведзь а. М. Брынкевіча ў дзень Сьв. Апосталаў (13.VII.88); «Уважлівы падыход да 'плачучай' іконы»; «900-годзьдзе перанясеньня мошчаў сьв. Мікалая»; «Сьвяткаваньне 1000-лецьцяя хрысьціянства на Беларусі» (хроніка); «Усяленскі Патрыярх на Беларусі»; працяг сьпісу ахвярадаўцаў на пабудову царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага; 70-я ўгодкі 25-га Сакавіка (хроніка); нэкралёгі па сьв. пам. матушцы Веры Коўш, а. архім. Аляксандру Дуомурасу, Нікандару Мядзейку; «Перадшлюбныя занятркі».

Паангельску: артыкулы пра хрысьціянства на Беларусі ды пра Мітрапаліта Менскага й Беларускага Мэлхісэдэка; арт. Епіскапа Ісаій Аспэкнадоскага пра СНІД (сындром набытага імунадэфіцыту — тое, што Амэрыканцы завуць «эйдс»); хроніка зь міжнародна-хрысьціянскай дзейнасьці; ліст Епіскапа Якаваса да прыхаджанаў царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага.

Нумар ілюстраваны. Галоўны рэдактар: а. Мечыслаў Брынкевіча. Адрас: "Carkoŭny Śvietač", P. O. Box 26, South River, N.J. 08882.

## ПАХАВАНЬНЕ СЬВ. ПАМ. УЛ. БОРТНІКА



**Мюнхэн, Зах. Нямеччына.** — Тут быў пахаваны на могільніку Пэрляхэр Форст сьв. пам. Ўладзімер Бортнік, беларускі палітычны й культурны дзеяч, заступнік Старшыні рады БНР на Эўропу, журналіст, выдавец газэты «Бацькаўшчына» (выходзіла да 1966 г.). Абрад пахаваньня выканаў а. Аляксандар Надсон.

На пахаваньні былі Беларусы-сябры зь Мюнхэну, швагер нябожчыка, прадстаўнікі ад Саюзу Свабодных Журналістаў, да якога Бортнік належаў, працаўнікі Чырвонага Крыжа, дзе калісьці ён працаваў, прадстаўнік ад татарскай грамады.

На сьвежую магілу былі ўскладзеныя вянкі ад радыястанцыі «Свабода», Рады БНР, арганізацыі «Свабодная Прэса», ад сям'і Кажаноў ды іншыя асабістыя вянкі. Пра сьмерць Ул. Бортніка падала газэта «Зюддойчэ Цайтунг (20.VI).

Сьв. пам. Ул. Бортнік адзначаўся глыбокім патрыятызмам, вялікай працавітасьцяй на грамадзкай ніве й шырокімі культурнымі зацікаўленьнямі. Усе ягоныя намаганьні на працягу цэлага паваеннага часу былі скіраваныя на вядзеньне беларускай арганізацыйнай працы й пашыраньне інфармацыі пра Беларусь. Шмат чаго нябожчык дасягнуў у гэтым кірунку праз сваё старшынства ў Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Зах. Нямеччыне, сяброўства ў арганізацыі «Свабодная Прэса», а таксама праз сваю дзейнасьць у Эўрапейскай Канфэрэнцыі Правоў Чалавека і Самавызначэньня.

Апошнім часам, аж да свае нечаканае сьмерці, нябожчык шырака рассылаў абодвы лісты беларускае інтэлігенцыі да Гарбачова, трымаў кантакты із швайцарскімі й францускімі газэтамі.

Пра Ўладзімера Бортніка пісала газэта «Беларус» у нумарох 261 (студз. 79) і 347 (травень 88).

Калі-б хто з чытачоў хацеў падзяліцца ўспамінам пра нябожчыка, «Беларус» ахвотна апублікуе гэткі матар'ял.

Вечная памяць вернаму й працавітаму сыну Беларусі Ўладзімеру Бортніку.

## *«БУРАЧОК»*

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

ца? І думаеш: Божа! Гэткі нязьменны сьвет! Што за царом, што за панам, што за (? — неразборліва — рэд. «Б-са»). Колькі палегла сыноў і дачок Яе адно за любоў да Яе! А Яна — жыве!

Узгадаем, браце, што было, а што прыдумаем — тое і будзе.

* * *

Выхад «Бурачка» пад час адлігі ў афіцыйным друку (АД) — не парадокс, а выпадковае супадзеньне. Бо гэты зборнік-альманах-часопіс — ня вынік цэнзуршчыны, якая нараджае апазіцыю. Бо ён — не апазіцыя. Ён ня супраць-, ня анты-друк, але іншы друк.

Пра якую апазіцыю можна гаварыць, калі няма бакоў, няма супярэчнасьці. «Бурачок» — гэта, хутчэй, новае «галіновае» або «рэгіянальнае» выданьне. Гэта зародак нац. друку, якога проста няма ў сістэме сучаснага АД. Няма і ўсё.

Нас не аспрэчаць у рэдакцыях. Нас там не зразумеюць. Бо там даўно няма сьвежых дырэктываў па нац. пытаньні. Кольшінія куратары сродкаў мас. інф. замарозілі яго, а сёньняшнія — па інэрцыі — ігнаруюць. «Бурачок» — адтуль, з замарожанай сфэры.

Мы і АД гаворым рознымі мовамі — як ускосна, так і даслоўна. Ці не таму яшчэ гэтак актыўна адвярнуўся беларус ад свае роднае мовы, што яна ператворана АД, радыё і ТБ (*тэлебачаньнем — рэд. «Б-са»*) у «исковерканный русский язык». Мы супраць гэтага, але і тут мы не апазіцыя. Бо супрацоўнікі АД, радыё і ТБ скажаюць мову не сьвядома, але міжвольна. Бо 99,9% з іх у жыцьці гэтай мовай не карыстаюцца. Ім не прэстыжна або не прынята або проста «стыдно». Думаюць па-расейску, пішуць па-беларуску. Як умеюць. А большаму мы іх не навучым. Таму і згадалі мудры прынцып: адмаўляеш — прапануй.

Не, ня вораг нам АД. Але, бадай, і не хаўрусьнік. Як не хаўрусьнікі і галасы «з-за рэчкі». Хоць у нечым асобныя пазіцыі нашых аўтараў і асобныя іхнія (АД і «Свабоды») тэзісы супадаюць, але…

Але, навучаныя горкім вопытам свайго нац. халуйства, мы аддаем абсалютную перавагу ўласным нацыянальным патэнцыям. Мы не «замыкаемся» і не «размыкаемся». У нашай хаце ёсьць дзьверы, ёсьць званок і ёсьць замок. Як у звычайнай хаце. Наш крытэрый — дабро Бацькаўшчыны, а не любоў ці нянавісьць да «братніх» і «нябратніх» народаў. Часам мы па-рознаму ўяўляем гэтае дабро. Часам нам не хапае кантактаў, каб прыйсьці да згоды. Часам бракуе самага простага — адчуваньня, што ты не адзін. Хіба дапамогуць тут АД ці «Свабода»? Хіба скрыжуюць на сваіх старонках дзіды прыхільнікаў розных канцэпцый нацыянальнага разьвіцьця? Хіба параяць, што і як рабіць сьвядомаму беларусу? Хіба нагадаюць пра ўсё сілком забытае ў нашай гісторыі? Не. У іх у кожнага — свае задачы, свой сьвет. Толькі вельмі рэдка мільгане ў АД што-небудзь гэткае за подпісам якогась «вырадка» ў рэдакцыйнай сям'і. І зноў — тыдні і месяцы маўчаньня.

«Бурачок» адтуль — з гэтага маўчаньня.

### *ПРАЦЯГ СПРЭЧКІ*

Газэта «Русская Жизнь» (25.VI) зьмясьціла адказ сп. Расьціслава Завістовіча, пад заг. «Яшчэ раз пра Беларусаў», нейкаму «В. Ю.», дзед якога паходзіў зь Беларусі, але які сябе аніяк за Беларуса не ўважае. Завістовіч, падаўшы колькі фактаў зь гісторыі Беларусі часоў Вялікага Княства Літоўскага ды з сучаснае БССР (змаганьне з русыфікацыяй), зрабіў выснову, што «Беларусь і ейны дабрадушны, але мужны народ выйдзе з гэтых пакутаў і станецца яшчэ больш моцным і ўпэўненым у сваёй будучыні».

## СЬВ. ПАМ ЧАСЛАЎ ХАНЯЎКА



2-га ліпеня гг. адыйшоў у лепшы й спакайнейшы сьвет сьв. пам. Часлаў Ханяўка, гарачы патрыёт свайго народу, вялікай душы чалавек.

Нябожчык нарадзіўся 26 травеня 1909 г. у Рызе, дзе ягоны бацька працаваў на чыгунцы. Маці Часлава Галена паходзіла з дому Карэнькаў. Па лініі маці нябожчык даводзіўся дваюрадным братам б. Старшыні Рады БНР др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу.

Хутка па рэвалюцыі 1917 году сям'я Ханяўкаў вярнулася ў родны Будслаў, дзе Часлаў пачаў навуку ў пачаткавай школе, аднак праз пару год бацькі адправілі яго на навуку ў Вільню, дзе ён скончыў Віленскую Беларускую Гімназію і агранамічны факультэт Віленскага Унівэрсытэту з тытулам інжынера аграноміі. У часе навукі ён быў дзейны ў беларускіх студэнцкіх арганізацыях: Беларускім Студэнцкім Саюзе і карпарацыі «Скарынія». І напэўна з гэтае прычыны па заканчэньні навукі ён меў трудынасьці з атрыманьнем працы, бо тагачасны польскі ўрад ня мог яму дараваць ягонае беларускасьці.

Падзеі другое сусьветнае вайны закінулі Часлава Ханяўку на тэрыторыю тагачаснага Генэральнага Губэрнатарства, дзе ён адразу ўключыўся ў працу варшаўскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, а пазьней займаўся дапамогаю Беларусам, якія апынуліся ў нямецкім палоне. Калі з пачаткам нямецка-савецкае вайны гэтая акцыя была Немцамі спыненая, ён ізноў вярнуўся да працы ў БНК, дзе працаваў аж да сярэдзіны 1944 году.

Па сканчэньні вайны Часлаў Ханяўка, ужо з жонкай Марыяй (з дому Паўлоўская) і дачушкай Рагнедай, апынуўся разам з тысячамі іншых у лягерох для ўцекачоў у амэрыканскай зоне Нямеччыны. Ён і тутака не сядзеў злажыўшы рукі і сьпярша ў ДП-лягеры Кассэль, а пазьней у Мэнхэнгофе вёў грамадзкую працу. У лягеры Мэнхэнгоф выключна ягонымі стараньнямі была адчынена беларуская школа, якая праіснавала аж да пераезду беларускай групы ў іншыя лягеры.

Апынуўшыся на пачатку 50-х гадоў у ЗША, а дакладней у Саўт-Рывэры, Н.-Дж., нябожчык узяўся за працу, якую яшчэ й сёньня добра памятае старэйшае пакаленьне. Рэч у тым, што яшчэ перад выездам за акіян ён быў даволі добра апанаваўшы ангельскую мову, тады як мы, за малымі хіба выняткамі, чуліся ў гэтай галіне бездапаможнымі. Дык вось гэнай парой па дапамогу да «Чэся» ў ягоную гасподу на Ўайтгэд Эвэню ішлі ўсе, а ён яе даваў, нічога не жадаючы ўзамен.

А хто быў ініцыятарам, а пазьней колькіразовым старшынём, скарбнікам аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы, або хто дапамагаў аформіць куплю гэтага «лапіка» беларускай зямлі ў Іст-Брансьвіку, як мы звыклі называць свой могільнік, на якім ён лёг на вечны адпачынак? — Ўсё той-жа ЧЭСЬ.

Ад доўгіх год зьняможаны, але не пераможаны страшной хваробай, нябожчык да апошніх тыдняў перад сьмерцяй спрабаваў давесьці да канца свой намер: закончыць «Слоўнік моўных асаблівасьцяў Вялейшчыны і Браслаўшчыны».

Сьв. пам. Часлаў Ханяўка асіраціў жонку, дачку, унука і шматлікую грамаду прыяцеляў, якія змаглі зь ім разьвітацца ў пахавальным бюро, у каталіцкім касьцеле Сьв. Язэпа ды ў канцы на «лапіку беларускай зямлі» ў Іст-Брансьвіку.

Сьпі спакойна, Дарагі Чэсь, і няхай табе сьніцца далёкая Беларусь, верным сынам якое ты быў да канца.

**Твой прыяцель В. С.**

## АБ ГАРАДОХ XVI СТ.

Выдавецтва ўнівэрсытэту штату Вісконсын выдала зборнік Soviet Geography Studies, 1987. Гэта юбілейнае выданьне, прысьвечанае навуковай дзейнасьці амэрыканскага географа Пола Лыдолфа. Лыдолф ведамы таксама як аўтар цэлага шэрагу працаў аб геаграфіі Савецкага Саюзу. Адзін з 14 артыкулаў у кнізе прысьвечаны гарадом Беларусі ў XVI-м стагодзьдзі. Аўтар артыкулу — прафэсар Р. А. Фрэнч, выкладчык Лёнданскага ўнівэрсытэту, ведамы дасьледнік у галіне гістарычнае геаграфіі. Праф. Фрэнч выдрукаваў ужо некалькі працаў аб мястэчках і гарадох Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, пераважна ў ангельскіх часапісах ды ў «Журнале Беларускіх Дасьледваньняў», які выдаецца ў Лёндане Англа-Беларускім Таварыствам.

Свой артыкул у юбілейнай кнізе праф. Фрэнч пачынае гэткім цьверджаньнем: У гістарычнай геаграфіі гарадоў на тэрыторыі Савецкага Саюзу XVI стагодзьдзе асабліва цікавае. Гістарычную геаграфію да XVI ст. географы звычайна распрацоўваюць на аснове археалягічных крыніцаў. Аднак ад другой паловы XVI ст. становіцца даступнай дакумэнтацыя пісаная. І гэткая дакумэнтацыя асабліва багатая ў дачыненьні да заходніх земляў сягоньняшняга Савецкага Саюзу, гэта значыць, і земляў Беларусі. Праф. Фрэнч аналізуе ў сваім артыкуле адміністрацыйную сыстэму беларускіх гарадоў і мястэчак, піша пра эканамічна-дэмаграфічны рост беларускіх гарадоў ды шмат удзяляе ўвагі архітэктуры й плянаваньню гарадоў. Дасьледнік вывучыў вельмі шмат архіўных матар'ялаў ды апісаў разьвіцьцё больш як дваццацёх беларускіх гарадоў і мястэчак. Артыкул мае шмат картаў ды статыстыкі.

Падсумоўваючы аналіз, праф. Фрэнч адзначае, што гарады Беларусі ў XVI ст. былі ня толькі адміністрацыйнымі цэнтрамі, але й цэнтрамі абароны беларускіх інтарэсаў, пашырэньня гандлёвых сувязяў, а таксама важнымі асяродкамі дапамогі разьвіцьцю сельскае гаспадаркі.

Незважаючы на розныя перашкоды — войны, эпідэміі, пажары, голад — гарады Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага стала расьлі ды буйнелі. Беларускія гарады былі паказьнікамі дабрабыту й эканамічнага росту. Калі гарады суседняе Маскоўшчыны у тым самым часе (гэта значыць, за часамі Івана Грознага) характэрываваліся рэцэсіяй, піша праф. Фрэнч, дык гарады Беларусі адзначаліся ростам і ўзмацненьнем.

**В. Кіпель**

*«ГАЛОСНАСЬЦЬ»*

# ПАДСУМАВАНЬНЕ «ДАСЯГНЕНЬНЯЎ» ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКІ

***М. ТАНК ПРА «МАСАВАЕ АЧМУРЭНЬНЕ»***

«...Ва ўгоду розных культавых дагматыкаў і апалагетаў адвольна асьвятлялася, камэнціравалася (у літаратуры застойнага пэрыяду — рэд. «Б-са») ня толькі далёкая мінуўшчына, але й тое, што было на нашых вачох, на нашай памяці, і патрабавалася, каб усё гэта ў такім-жа скажоным выглядзе дубліравалася і ў мастацкіх творах. (...)

«Цяжка знайсьці ў летапісах усяго чалавецтва нешта падобнае да такога масавага ачмурэньня...». — **Максім Танк,** старшыня Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі на пленуме СП БССР. «ЛіМ», 27.V.88.

**Заўвага «Беларуса»:** Ня ўсе яшчэ й цяпер выздаравелі ад гэтага ачмурэньня. Гэтак, праф. Горадзенскага ўнівэрсытэту Я. Мараш рэкамэндаваў нядаўна настаўнікам БССР у часапісе «Народная Асьвета» (№ 2, 1988) праводзіць у 7-й клясе сярэдняй школы гутарку на тэму «Атэістычнае значэньне дзейнасьці беларускага першадрукара Ф. Скарыны» (выдаўца Біблії!).

***«ПРАФАНАЦЫЯ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКІ»***

«(Беларуская) рэспубліка ў канцы XX стагодзьдзя, на 70-м годзе свайго сувэрэннага існаваньня ня мае сваёй навуковай гісторыі, бо ледзьве ня ўсё тое, што выходзіла пад грыфам Інстытуту гісторыі АН БССР, ёсьць, па сутнасьці, прафанацыя гістарычнай навукі. Вульгарны сацыялягізм, падладжваньне пад існуючыя ў розныя часы афіцыйныя канцэпцыі абясцэньваюць нават лепшыя гістарычныя працы». — **Васіль Быкаў** на пленуме СП БССР, «ЛіМ», 3.VI.88).

***ХЛУСІЎ, АЛЕ... «НЕ ЗАЎСЁДЫ І НЯ ЦАЛКАМ»***

«...Я асьмельваюся лічыць, што не дарэмна жыў, не дарэмна працаваў і насіў у кішэні партыйны білет, бо не заўсёды і ня цалкам займаўся міфатворчасьцю». — **А. Малашка,** доктар гістарычных навукаў, на пленуме СП БССР, «ЛіМ», 3.VI.88.

***РОЛЯ ГІСТОРЫКАЎ: «ЧЫСТА УТЫЛІТАРНАЯ»***

«Не для апраўданьня гісторыкаў, а ў інтарэсах высьвятленьня ісьціны яшчэ раз нагадаю, што ім адводзілася чыста утылітарная функцыя прапаганды дасягненьняў, апраўданьня дзеяньняў тых або іншых асобаў, якія знаходзіліся ля стырна кіраваньня. У адносінах-жа да тых, хто з такім разуменьнем прызначэньня гістарычнай навукі не пагаджаўся, прымяняліся меры ідэялягічнага, маральнага і іншага націску, ажно да адміністратыўнарэпрэсійнага». — **Р. Платонаў,** дырэктар Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ, на пленуме СП БССР, «ЛіМ», 3.VI.88.

***АДНО ЗЬ ПЕРШЫХ МЕСЦАЎ (ЗЗАДУ)***

«Магчыма, мы займаем адно зь першых месцаў — ня сьпераду, а ззаду — у скажэньні гісторыі. У нас утварылася мноства штампаў, якіх ня можа перадолець гістарычная навука. Найперш, гэта тэзіс аб бездзяржаўнасьці беларускага народу. Гістарычныя факты гавораць іншае. Полацкае, Навагрудзкае княствы былі дзяржаўнымі адзінкамі, самі распараджаліся лёсам сваёй зямлі». — **М. Ермаловіч,** гісторык, на пленуме СП БССР, «ЛіМ», 3.VI.88.

***«ПАСЛУГАЧКА ПРАПАГАНДЫ»***

«Рэжыму, які ўсталяваўся ў нашай краіне ў канцы 20-х гадоў, гісторыя як навука была непатрэбная. Яна была патрэбная гэтаму рэжыму як паслугачка прапаганды, патрэбная для апраўданьня крывавых злачынстваў, калі фізычна ці маральна зьнішчалася лепшая частка грамадзтва. Той страшны час і нарадзіў гісторыкаў, якія, абвяшчаючы сябе марксыстамі, служылі не марксызму, не народу, ня ісьціне, а — уладзе. Гэтым людзям было абыякава, чытае народ іх творы ці не, галоўнае, каб наверсе былі задаволеныя. Сказаць, што такое становішча незваротна канула ў Лету, — значыць сказаць няпраўду». — **У. Арлоў,** выпускнік гіст. факультэту БДУ, пісьменьнік гістарычнай тэматыкі, на пленуме СП БССР, «ЛіМ», 3.VI.88.

***ВЫКЛАДАЦЬ БАБЕЛАРУСКУ!***

«Гісторыю Беларусі абавязкова трэба выкладаць на беларускай мове — і ў школе, і ў тэхнікумах, і ў вышэйшых навучальных установах». — **А. Грыцкевіч,** доктар гістарычных навукаў, на пленуме СП БССР, «ЛіМ», 3.VI.88.

## *«НЕФАРМАЛЬНЫЯ» БЕЛАРУСЫ*

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

якія зьбіралі сотні людзей, ладзіліся вечары. Вось, скажам, былыя члены 'Майстроўні' зрабілі спробу стварыць пры ЖЭС № 85 у раёне вуліцы Сурганава клюб імя У. Караткевіча і пачаць зь вечара памяці выдатнага нашага пісьменьніка. Вечар удаўся, але дзейнічаць клюбу не далі. (...) (161)

*В. Мартыненка.* «Асабіста ў мяне, калі ўжо займаўся музыкай, ня было гэткай ідэі — стварыць менавіта беларускі рок-клюб. Была толькі ідэя клюбу. А ўжо пад уплывам 'Талакі' яна сталася ідэяй беларускага клюбу. Я не кажу: пад уплывам Саюзу пісьменьнікаў ці выставак. Бо-ж мы, маладыя, глядзім на літаратараў і мастакоў, як на музэйныя экспанаты, калі яны гутараць пабеларуску. А вось зьявілася 'Талака' — гэта ўжо было беларускае жыцьцё, ня музэйнае, а натуральнае. І мова там жывая, ня музэйная, як праз радыё ці ў газэтах. Бо-ж шмат якія нашыя пісьменьнікі, дыктары, журналісты, артысты ў быце, на вуліцы гавораць парасейску. Гэта іхная натуральная мова. І гэткіх — бальшыня.

«Да таго часу, як мы пазнаёміліся з 'Талакой', былі ў нас у клюбе («Няміга») ўжо пэўныя арганізацыйныя дасягненьні. Але ўсё-ж пачалася пераарыентацыя. Моцна паўплывала й тое, што найбольш актыўны ўдзел бралі беларускамоўныя рок-гурты 'Мроя' і 'Бонда'. Менавіта яны хадзілі па інстанцыях і арганізавалі гэты клюб».

*(Працяг у наступным нумары)*

## СЬВ. ПАМ. ДЗЬМІТРЫ ДЗЯДОВІЧ

Нарадзіўся 1 кастрычніка 1920 г. ў вёсцы Стайкі Баранавіцкага раёну. Памёр 17 ліпеня 1988 г. ў Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., пакінуў у жалобе жонку Яніну, сястру Наташу й пляменьнікаў на Беларусі, аб чым з сумам паведамляе ды глыбокае спачуваньне сям'і нябожчыка выказвае

**Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканкіх Вэтэранаў**

### ПАДЗЯКА ЗА ГАЗЭТНЫЯ ВЫРАЗКІ

Прэсавы матар'ял нам прыслалі: др. Ю. Кіпель, В. Мельяновіч, А. Стагановіч, М. Грэбень, В. Махнач, П. Урбан, Я. Мойсік, С. Карніловіч, Я. Міхалюк, У. Акавіты, М. Раецкі, М. Нікан.

Усім шчырая падзяка ад рэдакцыі і ад чытачоў, якія, дзякуючы прысыланаму збоку прэсаваму матар'ялу, больш даведаюцца пра беларускія справы.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

***Этнічны фэстываль у Нью-Джэрзы!***

Дзясяты гадавы фэстываль этнічных групаў штату адбудзецца 10 верасьня 1988 г.

Liberty State Park
Saturday, September 10, 1988
12 noon — 10 p.m.

Кіраўнік фэстывалю Стывэн Маркоўскі гэтым запрашае Беларусаў штату Нью-Джэрзы й суседзяў із штатаў Нью-Ёрк, Канэктыкет, Пэнсыльванія й Мэрыленд узяць удзел у гэтым вялікім сьвяце мастацтваў.

Газэта «Беларус» горача заклікае сваіх чытачоў падтрымаць фэстываль, у якім Беларусы традыцыйна бяруць удзел ды які заўсёды праходзіць нязвычайна цікава й прыемна.

***ГАЗЭТА «БЕЛАРУС» — ЛУЧНІК З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ І МЕСЦА ДАКУМЭНТАЦЫІ ЖЫЦЬЦЯ ЗАМЕЖНАЕ БЕЛАРУСІ — ВЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ. ЗА ГЭТА ІМ ПАДЗЯКА І СЛАВА.***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| БАЗА, аддзел Нью-Ёрк | ам.д. 500 |
| В. Тумаш, старэйшы | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| Л. Кавалёў | 25 |
| М. Шчорс | 25 |
| Д. Ясько | 20 |
| М. Клімюк | 20 |
| Б. Паўк | 15 |
| М. К. | 5 |
| Я. Ю. | 5 |
| Усяго | 815 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча. Заміж вянкоў на магілу сьв. пам. Часлава Ханяўкі:*

| | |
|---|---|
| Сям'я Б. Даніловіча | 25 |
| Сям'я А. Непейна | 25 |
| Сям'я А. Суботы | 25 |

*Падпіска й ахвяры на «Беларуса»:*

| | |
|---|---|
| В. Макац | 40 |
| П. Кажура | 30 |
| С. Кірылік | 30 |
| У. Пелеса | 25 |
| П. Драздоўскі | 25 |
| М. Тулейка | 25 |
| Ю. Станкевіч | 25 |
| А. Філістовіч | 20 |
| Р. Галяк | 20 |
| А. Непейн | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| М. Палюховіч | 20 |
| Л. Літаровіч | 20 |
| У. Сітнік | 20 |
| А. Протас | 20 |
| К. Мірановіч | 20 |
| Ю. Азарка | 15 |
| Я. Літвіненка | 15 |
| С. М. | 15 |
| А. Асіповіч | 15 |
| Я. Бабіцкі | 15 |
| Я. Губэрт | 15 |
| Б. Букатка | 15 |
| Ю. А. за А. М. | 15 |
| А. Занковіч | 15 |
| М. Ханяўка | 15 |
| В. Ярашэвіч | 10 |
| Усяго | 615 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. А. Стрэчаня:*

| | |
|---|---|
| С. П. | 50 |
| А. Стрэчань | 50 |
| К. Калоша | 50 |
| К. Каляда | 30 |
| П. Кананчук | 25 |
| В. Яцэвіч | 25 |
| П. Даймон | 25 |
| Я. Раковіч | 25 |
| Я. Ханенка | 20 |
| М. Страпко | 20 |
| А. Яраховіч | 20 |
| А. Сацэвіч | 20 |
| К. Маталыцкі | 20 |
| Я. Каваленка | 40 |
| З продажу газэтаў | 32 |
| Усяго | 432 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| Я. Скурат | ам.д. 20 |

**ФРАНЦЫЯ**

| | |
|---|---|
| С. Генка | фр.фр. 200 |
| В. Жаўнеровіч | 100 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| З. Смаршчок | б.фр. 1000 |
| М. Валетаў | 1000 |
| А. Арэшка | 500 |
| Р. Занькоўскі | 400 |
| Усяго | 2900 |
| ам.д. | 81,29 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| У. Акавіты | ам.д. 55,54 |

*Праз сп. М. Лужынскага:*

| | |
|---|---|
| В. Русак | аўстр.д. 50 |
| М. Мілеўскі | 50 |
| М. Сазановіч | 50 |
| Я. Гавенчык | 50 |
| О. Качан | 50 |
| А. Бакуновіч | 50 |
| М. Антух | 50 |
| С. Нарушэвіч | 50 |
| М. Бакуновіч | 50 |
| Л. Бакуновіч-Грыцай | 50 |
| С. Яраховіч | 50 |
| М. Лужынскі | 50 |
| Усяго | 600 |

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!.

**Выдавецтва «Беларус»**

УВАГА!!! УВАГА!!!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 09901

**Адміністрацыя**